



# Рэгіянальная газета. Rh.by

тэлетыдзень
27 каналаў ад "Рэгіянальнай газеты"

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

12+

22 верасня 2017 года №38 (1169)


# У Вілейцы арганізавалі семінар па вырашэнні мясцовых праблем

## Чаканне



## Рэальнасць



старонка 2

Фота Аксаны ЯРАШОНАК.

## Што "ўрадзіла" на восеньскім рынку ў Маладзечне

старонка 17

## Чым жыў рэгіён 20 год таму?

"Тытанік", Клінтан, смерч, прэзерватывы і іншае.

старонка 19

## У калекцыі віляйчаніна 650 машын... цацачных

старонка 20-21

## У кастрычніку правядуць пробны перапіс

МАЛАДЗЕЧНА

Ад 2 да 13 кастрычніка ў Маладзечанскім раёне правядуць пробны перапіс насельніцтва.

Як паведамляе Галоўнае статыстычнае ўпраўленне Мінскай вобласці, плануюць апытаць насельніцтва некаторых вуліц у Маладзечне.

Сярод іх Багдана Хмяльніцкага, Бухаўшчына, Вялікі Гасцінец, Віленская, Вольная, Ігната Буйніцкага, Касманаўтаў, Лебедзеўская, Льва Талстога, Маркава, Машэрава, Міхаіла Забэйды-Суміцкага, Рабочая, Таміліна, Язэпа Драздовіча, Якуба Ясінскага. Таксама ў завулках Рабочы 1-ы, Рабочы 2-і, Рабочы 3-і, на Цэнтральнай плошчы.

Перапіс правядуць і ў аграгарадку Лебедзева, вёсках Насілава, Цюрлі, Каледзіно, Вытрапаўшчына і Менцюкі.

Паводле Белстата, падчас перапісу плануюць апытаць 15 000 чалавек. Перапісчыкі будуць карыстацца планшэтамі.

У азначаны перыяд па месцы жыхарства прыйдзе перапісчык, які задасць пытанні пра ўзрост, сямейны стан, нацыянальнасць, адукацыю, эканамічную актыўнасць, домагаспадарку і іншае.

## Аднавілі і асвяцілі брацкія магілы

ВІЛЕЙКА

16 верасня на Навасёлкаўскіх могілках у Вілейскім раёне асвяцілі аднаўленыя брацкія магілы, у якіх пахаваныя жыхары вёсак Навасёлкі і Батурына.

Іх закатавалі лясныя бандыты ў 1942 годзе.

Імёны загінулых не ўнесеныя ў кнігу "Памяць" Вілейскага раёна і ўжо амаль былі забытыя. Але дзякуючы памяці нешматлікіх сведкаў ваеннага ліхалецця, іх прозвішчы ўдалося аднавіць і грамадой на адроджаных магілах усталяваць гранітныя пліты з высечанымі на іх прозвішчамі загінулых землякоў.

Ушанаванне памяці ахвяраў вайны адбылося дзякуючы намаганням краязнаўцы **Алеся Ранкевіча**.

Аддзел інфармацыі.

## Справілі Свята дуба

АСТРАВЕЦ

Мерапрыемства адбылося 16 верасня.

У гэты дзень пасадзілі новую дубраву на беразе Янаўскага вадасховішча.

Напярэдадні астраўчане маглі стаць удзельнікамі фотаконкурсу-выставы "Дуб у аб'ектыве".

На свяце працаваў горад майстроў. Было некалькі пляцовак для харчавання, а самай папулярнай стала палявая кухня ваеннаслужачых пагранічнай камендатуры "Гудагай".

Паводле "Астравецкай праўды".

## Зладзілі грыбное свята

АШМЯНЫ

17 верасня ў аграгарадку Крэйванцы правялі свята "Поўны кошык".

Для гасцей падрыхтавалі спартыўныя забавы. Грыбнікі прынеслі на выставу-продаж свае трафеі, іншыя паказалі грыбныя нарыхтоўкі на зіму і грыбныя стравы.

Некаторыя вяскоўцы прапанавалі зрабіць свята традыцыйным.

Паводле "Ашмянскага весніка".

## Для смаргонскага фэсту спяклі мега-абаранак

СМАРГОНЬ

Традыцыйнае свята "Смаргонскія абаранкі" зладзілі ў Смаргоні 16 верасня.

Вялікі хлебны вырабсімвал фестывалю дыяметрам больш за метр разрэзалі на кавалачкі і пачаставалі гасцей.

Паводле "Светлага шляху".

## Вучыліся фатаграфаваць птушак

ВАЛОЖЫН

Семінар "Птушкі нашага краю: прыёмы і метады фатаграфавання" правялі ў школе ў Сакаўшчыне 12 верасня.

Мерапрыемства адбылося ў межах праекта ПРААН і фінансуецца Еўрасаюзам.

Спонсары падарылі Валожынскаму цэнтру абслугоўвання насельніцтва фотаапараты, каб усе ахвотныя маглі заняцца фотапаляваннем на беразе Сакаўшчынскага вадасховішча, дзе абсталяваная база для назірання за птушкамі.

Паводле "Працоўнай славы".

## Свята гарбаты пройдзе ў "Аптэкарскім садзе"

МЯДЗЕЛ

Свята "Дзівосныя травы" пройдзе 30 верасня ад 14 да 18 гадзін.

Падчас яго абяцаюць экскурсіі, знаёмства з сакрэтамі бабулі-траўніцы, майстар-класы народных майстроў. Уваход на свята вольны.

Паводле "Нарачанскай зары".

ТЭМА НУМАРА

# Вырашаць мясцовыя праблемы прыйшло двое віляйчан

ВІЛЕЙКА

**16 верасня актывісты ініцыятыўнай групы "Дзея" спрабавалі зладзіць у Вілейцы сустрэчу з гараджанамі, каб распавесці ім, як вырашаць мясцовыя праблемы.**



Уладзімір Кавалкін.



Антон Матолька.



Аліна Нагорная.

Пра сустрэчу паведамілі праз суполкі ў сацыяльных сетках.

### Як збіраць электронныя подпісы

Госці з Мінска, кіраўнікі вэб-платформы "Зручны горад" **Уладзімір Кавалкін** і **Антон Матолька** распавялі пра тое, як іх сайт можна выкарыстаць для вырашэння мясцовых праблем.

Сэнс працы сайта ў тым, каб "закінуць" туды петыцыю, сабраць электронныя подпісы. А пасля гэтага петыцыя аўтаматычна або з дапамогай кіраўнікоў платформы накіроўваецца ў пэўны дзяржаўны орган.

Самая вялікая колькасць подпісаў, сабраных за час працы платформы пад адной петыцыяй, – дзевяць тысяч.

> **Ёсць і станоўчыя прыклады вырашэння мясцовых праблем па ўсёй Беларусі.**

Асабліва актыўна, па словах арганізатараў, электронныя петыцыі задавальняе Гродзенскі райвыканкам.

Цяпер сайт шмат працуе з рэгіёнамі, таму жыхары Вілейкі могуць карыстацца ім.

### 59 чалавек за два дні – нядрэнны вынік

Арганізатарка сустрэчы **Аліна Нагорная** распавяла пра выпікі анкетавання, якое запусцілі ў інтэрнэце. З дапамогай анкеты вырашылі высветліць, якія праблемы ёсць у Вілейцы. На сённяшні дзень анкетаванне працягваецца.

У анкеце трэба ананімна адказаць на пытанні арганізатараў, пазначыўшы свой пол і ўзрост.

> **Пытанні фармулявалі наступным чынам: ці сутыкаліся вы з праблемамі ў адукацыі, ахове здароўя, у дарожнай службе, ЖКГ.**

Таксама трэба было ацаніць, наколькі добра ў Вілейцы асвятляюць вуліцы, збіраюць смецце, ствараюць умовы для людзей з асаблівымі патрэбамі, даюць магчымасці для развіцця і адпачынку моладзі, ці задавальняе гараджан якасць дзіцячых пляцовак.

Напрыканцы анкеты ўдзельнікі маглі напісаць пра іншыя праблемы, не пазначаныя ў анкеце.

Па словах Аліны Нагорнай, падобным чынам гараджан апытвалі ў Баранавічах і ў яе родным Слуцку.

Актывісты няўрадавай арганізацыі "Дзея", па словах Аліны, працуюць у многіх гарадах Беларусі. Сярод сяброў арганізацыі ёсць прафесійныя юрысты, якія могуць кваліфікавана дапамагчы.

> **Для гараджан "Дзея" ладзіць трохдзённыя курсы па вырашэнні мясцовых праблем.**

На пытанне, ці заўсёды ёсць станоўчы вынік, Аліна адказала так:

– Гледзячы, што лічыць станоўчым вынікам. У маім родным Слуцку сабралі 1 200 подпісаў за ўстаноўку помніка слуцкім паўстанцам. Помнік пакуль не паставілі. Таму, з аднаго боку, можна лічыць, што выніку няма. Але з іншага боку, 1 200 чалавек больш даведаліся пра слуцкае паўстанне. Хіба гэта кепска?

> **У Вілейцы за два дні на пытанні анкеты адказалі 59 жыхароў.**

Паводле меркавання Аліны, гэта нядрэнны вынік.

### Віляйчан хвалююць дарожныя праблемы

Якія ж праблемы пазначылі віляйчане ў анкеце? На першым месцы, паводле анкеты, праблема з дарожнымі службамі. З ёй сутыкаліся 34 чалавекі з 59.

Аліна прыгадала два выпадкі з рамонтам вілейскіх дарог. Першы вырашыўся станоўча.

У 2016 годзе падчас парламенцкіх выбараў кандыдат у мясцовыя дэпутаты **Максім Ціханаў** дапамог жыхару адной з вёсак Вілейшчыны правільна скласці зварот у райвыканкам. Подпісы сярод аднавяскоўцаў мужчына сабраў сам. І дарогу адрамантавалі.

А сітуацыю з дрэннай дарогай на вілейскай вуліцы Каралёва, на жаль, не вырашылі так хутка.

### Чым заняцца? Дзе апрануцца?

На другім месцы – праблема занятасці моладзі ў Вілейцы.

27 прaанкетаваных незадаволеныя дзіцячымі пляцоўкамі ў дварах шматпавярховак.

А вось з праблемамі ў галіне аховы здароўя ў Вілейцы, паводле анкеты, з 59 удзельнікаў анкетавання не сутыкаўся ніхто.

У раздзеле "Іншае" віляйчане пісалі пра тое, што ў горадзе мала крам, дзе можна выбраць добрае дзіцячае і моладзевае адзенне. Не хапае месцаў для адпачынку моладзі і мам з дзецьмі. Зноў паўстала пытанне пра тое, што нядрэнна было б адчыніць дзіцячае кафэ.

> **Нягледзячы на тое, што ўдзел у анкетаванні быў даволі актыўным, на само абмеркаванне праблем прыйшлі два вілейчукі.**

І невядома, што стала прычынай такога нешматлікага ўдзелу ў мерапрыемстве: пасіўнасць, грыбны сезон, недапрацоўка арганізатараў ці адсутнасць праблем.

Фота аўтара.



Аксана ЯРАШОНАК
aksanayarashonak@gmail.com
8-044-566-26-99 (працоўны)

# МОВА – ШКОЛЫ

## НА ЯКОЙ МОВЕ НАВУЧАЮЦЦА




## ПА НАСЕЛЕНЫХ ПУНКТАХ




## ЯКІЯ МОВЫ ВЫВУЧАЮЦЬ




## Якія мовы вывучаюць ПА НАСЕЛЕНЫХ ПУНКТАХ




Інфаграфіка Кірыла СТАСЕЛЬКІ.

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 14.09 | 21.09 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 1,9392 | **1,9405** |
| Еўра | 2,3219 | **2,3295** |
| Злоты, 10 | 5,4288 | **5,4463** |
| Расійскі рубель, 100 | 3,3594 | **3,3389** |
| Грыўня, 100 | 7,4327 | **7,4086** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ"** | **13.09** | **20.09** |
| Еўра | 2.2900/2.3150 | **2.3100/2.3350** |
| Долар ЗША | 1.9250/1.9400 | **1.9300/1.9500** |

| ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна) | | |
|---|---|---|
| **ПРАДУКТЫ** | **13.09** | **20.09** |
| | Цана руб. | |
| Кілбаса "Мядовая", 1 кг | 16,85 | **16,58** |
| Сасіскі "Малочныя", 1 кг | 6,98 | **6,68** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 3,10 | **3,35** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 8,50 | **8,50** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 3,85 | **3,85** |
| Селядзец, 1 кг | 5,50 | **3,60** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 14,80 | **14,80** |
| Рыс, 0,9 кг | 1,70 | **1,30** |
| Грэчка, 0,8 кг | 2,00 | **1,85** |
| Яйкі курыныя С1, 1 дз. | 1,30 | **1,30** |
| Алей "Фермер", 1 л | 2,10 | "Золотая семечка" **2,30** |
| Маянэз, 200 г | 0,93 | **0,95** |
| Соус "Мінскі", 0,5 л | 1,60 | **1,50** |
| Кава "Nescafe", 100 г | 5,20 | **5,20** |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 1,90 | **1,90** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 0,79 | **0,80** |
| Часнок, 1 кг | 5,95 | **5,50** |
| Капуста, 1 кг | 0,59 | **0,55** |
| Морква, 1 кг | 0,70 | **0,70** |
| Кабачкі, 1 кг | 0,50 | **0,80** |
| Гарбуз, 1 кг | - | **1,00** |
| Лімоны, 1 кг | 3,81 | **3,80** |
| Апельсіны, 1 кг | 3,30 | **3,30** |
| Дыня, 1 кг | 1,50 | **1,80** |
| Буракі, 1 кг | 0,69 | **0,60** |
| Памідоры, 1 кг | 1,20 | **1,20** |
| Агуркі, 1 кг | 1,50 | **1,49** |
| Перац, 1 кг | 1,40 | **1,30** |
| Кавун, 1 кг | 0,70 | **0,70** |
| Вінаград, 1 кг | 3,40 | **3,49** |
| Грэйпфрут, 1 кг | 3,40 | **3,30** |
| Ківі, 1 кг | 4,50 | **4,95** |
| Персікі, 1 кг | 2,49 | **2,50** |
| Нектарыны, 1 кг | 3,50 | **3,50** |
| Слівы, 1 кг | 2,49 | **2,49** |
| Бананы, 1 кг | 1,89 | **1,45** |
| Мандарыны, 1 кг | 4,95 | **4,45** |
| Баклажаны, 1 кг | 1,29 | **1,50** |
| Яблыкі, 1 кг | 1,69 | **1,45** |
| Грушы, 1 кг | 3,95 | **3,85** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 1,80 | **1,80** |
| Масла, 1 кг | 12,00 | **12,00** |
| Тварог, 1 кг | 6,00 | **6,00** |
| Бульба, 1 кг | 0,40 | **0,40** |
| Сала, 1 кг | 11,00 | **11,00** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 2,50 | **2,50** |
| Мёд, 0,5 л | 7,00 | **-** |

НАВІНЫ

## ДАІ будзе вельмі пільна сачыць за сітуацыяй на дарозе

**Ад 20 да 30 верасня праводзяць абласны комплекс мерапрыемстваў па папярэджанні і змяншэнні парушэнняў правілаў дарожнага руху сярод веласіпедыстаў і пешаходаў.**

У гэты перыяд міліцыя будзе кантраляваць выкананне правілаў дарожнага руху, асабліва каля месцаў масавага руху веласіпедыстаў і пешаходаў як у межах населеных пунктаў, так і за імі.

Міліцыянеры будуць праводзіць прафілактычныя размовы па прафілактыцы траўматызму ў працоўных калектывах.

У цёмны час сутак будуць працаваць рэйдавыя групы, якія будуць "лавіць" пешаходаў, раварыстаў і вадзіцеляў гужавога транспарту, якія не трымаюцца правіл дарожнага руху, не карыстаюцца святлоадбівальнымі элементамі.

Парушальнікаў прыцягнуць да адміністрацыйнай адказнасці. Калі сярод парушальнікаў будуць непаўнагадовыя, адпаведныя матэрыялы накіруюць ў камісію па справах непаўнагадовых.

ДАІ нагадвае пра тое, што ў цёмны час сутак на дарозе веласіпедысты і пешаходы павінны пазначаць сябе святлоадбівальнымі элементамі, а ровары і гужавыя павозкі трэба абсталяваць светлавымі прыборамі.

## Сям'я ў машыне сутыкнулася з "ДАФ"

ВАЛОЖЫН

Сутыкненне адбылося вечарам 16 верасня каля вёскі Папкі.

46-гадовы кіроўца "Аўдзі" выехаў на паласу сустрэчнага руху і сутыкнуўся з аўтамабілем "ДАФ".

Кіроўца "Аўдзі" загінуў. З ім ехалі 43-гадовая жонка, 18- і 6-гадовая дочкі шпіталізаваныя.

Усе – жыхары Мінска.



## Бачыце п'янага ля дарогі – званіце ДАІ

Дзякуючы вашай нераўнадушнасці вы, магчыма, выратуеце нечае жыццё.

Калі заўважылі каля дарогі п'янага пешахода, які можа быць небяспечны для руху, званіце на нумар **(80176) 77-16-56 ці 102.**

**Сяргей БАРТОШ, дзяржаўтаінспектар аддзела ДАІ.**

## 22 верасня – Дзень без аўтамабіля

Гэтая акцыя праходзіць у Беларусі ўжо некалькі год, як і ў іншых краінах.

Акцыя прыцягвае ўвагу да праблемы забруджвання атмасферы шкоднымі выкідамі з транспарту.

Падтрымаць гэту акцыю можна, проста пакінуўшы аўто дома.

Як паведамляе Міністэрства ўнутраных спраў, у гэты дзень у сталіцы не будуць браць плату за праезд у грамадскім транспарце, калі кіроўца пакажа вадзіцельскае пасведчанне ці пасведчанне аб рэгістрацыі машыны.

## Маладзечанка выехала на сустрэчку ў Мінскім раёне

МАЛАДЗЕЧНА

Здарэнне адбылося 16 верасня каля вёскі Лісіцы.

28-гадовая жыхарка Маладзечна ноччу ехала на "Рэно". Яна выехала на паласу сустрэчнага руху і сутыкнулася з "Сітраэнам", якім кіравала 40-гадовая мінчанка.

Маладзечанка загінула, кіроўца "Сітраэна" шпіталізаваная.

**Паводле МУС.**





Фота youtube.com.

Хто б мог падумаць, што шахматы акажуцца траўманебяспечным відам спорту не толькі ў кіно, але і ў жыцці. На здымку кадр з кінафільма "12 крэслаў".

# Шахматыст ударыў у твар саперніка за тое, што той выйграў

МАЛАДЗЕЧНА

**Здарэнне адбылося яшчэ ў канцы ліпеня, але крымінальная справа па артыкуле "Хуліганства" ўзбуджаная 18 верасня.**

Гісторыя пачалася адным летнім вечарам, калі 30-гадовы работнік аднаго з будаўнічых прадпрыемстваў горада вяртаўся пасля працы дадому.

Каля пад'езда па вуліцы Ясінскага сядзела групка сяброў 18-20 год.

– Наш хуліган спачатку правакаваў іх, задзіраў, – расказвае старшы следчы Маладзечанскага РАСК **Юры Багушэвіч**, – паслядоўна прапанаваў згуляць у шахматы. Прылада "шахматы" была ўсталяваная на тэлефоне.

Сапернік выйграў. За што і атрымаў ад таго, хто прайграў, кулаком у твар.

Хуліган спрабаваў дамагчыся высвятлення таго, хто з іх мацнейшы шахматыст, бойкай, але хлопцы адышлі ўбок і моўчкі выклікалі міліцыю.

**Наталля ТУР.**

## Маладзечанец падпільнаваў знаёмую пад пад'ездам і разбіў машыну кавалеру, што падвозіў яе

МАЛАДЗЕЧНА

Здарэнне адбылося на выхадных з 16 на 17 верасня.

41-гадовы маладзечанец запрасіў сваю знаёмую жанчыну правесці з ім вечар у адной з забаўляльных устаноў горада.

У разгары вечара мужчына заўважыў, што яго знаёмая раптоўна знікла.

– Згараючы ад рэўнасці, мужчына пабег да дома, дзе яна жыла, – расказвае старшы следчы Маладзечанскага РАСК **Юры Багушэвіч**. – Там ён затаіўся і пачаў чакаць.

Неўзабаве ў двор заруліў аўтамабіль, які даставіў дадому легкадумную жанчыну.

Паміж мужчынамі завязалася патасоўка. Раўнівец спрабаваў новага кавалера сваёй дамы выцягнуць з машыны, парваў на ім адзенне. Кавалер збег. Затое раўнівец выраашыў адыграцца на аўтамабілі: біў па ім нагамі, разбіў фары.

Узбуджаная крымінальная справа.

## Праводзяць акцыю "Дом без гвалту!"

МАЛАДЗЕЧНА

Рэспубліканскую акцыю праводзяць ад 18 да 29 верасня.

Мэта акцыі – змяншэнне злачынстваў супраць палавой недатыкальнасці ці палавой свабоды ў адносінах да непаўнагадовых.

Падчас акцыі будуць арганізаваныя тлумачальныя размовы з непаўнагадовымі, бацькамі, апекунамі пра наступствы такіх злачынстваў.

**Валянцін АСІПОВІЧ, начальнік Маладзечанскага райаддзела ўнутраных спраў.**

## На Вілейшчыне ад маланкі загарэўся хлеў

ВІЛЕЙКА

19 верасня ў раённы аддзел па надзвычайных сітуацыях патэлефанаваў мужчына і сказаў, што гарыць хлеў у Хаценчыцах.

Тэлефанаваў гаспадар. Ноччу ён прачнуўся ад удару, выйшаў на вуліцу і ўбачыў, што ў ягоным двары гарыць хлеў.

У выніку згарэў дах, пашкодзіліся сцены. Ніхто не пацярпеў.

Як распавялі ў вілейскім РАНС, прычынай пажару стаў маланкавы разрад.

## У лазні на Вілейшчыне згарэў пенсіянер

ВІЛЕЙКА

17 верасня ноччу ў раённы аддзел па надзвычайных сітуацыях патэлефанавалі пра пажар у вёсцы Любань.

Калі выратавальнікі прыехалі, адкрытым полымем гарэла лазня ў прыватным двары.

Калі лазню пачалі тушыць, на падлозе знайшлі цела мужчыны. Папярэдне ўстанавілі, што загінулы – 76-гадовы гаспадар.

Па словах жонкі і сведкаў, пенсіянер у нецвярозым стане курыў у лазні. Хутчэй за ўсё, ён загінуў з-за неасцярожнага абыходжання з агнём.

**Наталля ТУР.**

# Дзённік мамы першакласніцы: да навучальнага года мы не падрыхтаваліся



МАЛАДЗЕЧНА

**Наш школьны стаж ужо два тыдні. Здаецца, мала. Але некаторыя высновы зрабіць змаглі.**




Першы прадмет першакласніцы Варвары – "Уводзіны ў школьнае жыццё".

Напрыклад, бацькі першакласніцы лічылі, што да навучальнага года яны падрыхтаваліся. А што там: сарафанчык, партфель, спартыўныя штонікі і кеды.

Але першы бацькоўскі сход паказаў, што да зборам у школу мы падышлі безадказна. Папершае, не ўлічылі, што дзіця будзе ў харэаграфічным класе. Значыць, плюс балеткі, гімнастычны купальнік і легінсы.

Па-другое, зусім не падумалі пра ўбор для дачкі ў прадлёнку. Бо пасля ўрокаў дзеці здымаюць школьную форму, вешаюць на вешалку-"плечукі" і пераапранаюцца ў больш зручнае паўсядзённае адзенне.

У сувязі з гэтым узнікла яшчэ адна праблема: дзіця абсалютна не ўмела акуратна павесіць форму на вешалку.

Калі з сарафанам яшчэ больш-менш атрымоўвалася, то сарочка запіхвалася абы-як. Але некалькі трэніровак па вечарах праблему вырашылі.

Клас у нас вялікі – 30 чалавек. І вядома, у першыя дні запомніць усіх Мікіт, Даш, Варвар і іншых першакласнікаў ні настаўніца, ні выхавальніца прадлёнкі не маглі. Спатрэбіліся два бэджыкі – адзін у клас, другі – у прадлёнку.

Этыкеткі бэджаў для класа настаўніца раздрукавала сама – вельмі яркія, прыгожыя, з малюнкамі. Дзецям спадабаліся.

Мы, непрадуманыя бацькі, набылі сшыткі, вокладкі, ручкі, фламастары, фарбы, алоўкі. Але зусім забыліся пра іншыя прыемныя і патрэбныя дробязі, без якіх першакласніцы ніяк.

У экстранным парадку шукалі набор геаметрычных фігур, палачкі для лічэння, сшытак для факультатыву, "веера" лічбаў і галосных літар, магнітныя закладкі.

Пра такія я сама даведалася ўпершыню. Маленькія тонкія магніцікі, накшталт тых, што мы вешаем на халадзільнік. Складаюцца, як паштоўкі.

Такія не вылятаюць з кніг і сшыткаў, да таго ж падымаюць настрой "няшнымі" малюнкамі з коцікамі і сабачкамі.

З урокаў пару першых тыдняў вывучаем толькі ўводзіны ў школьнае жыццё. Для гэтага дзецям раздалі спецыяльныя сшыткі, дзе яны малююць, размалёўваюць, пішуць і абводзяць.

А яшчэ, да вялікай радасці Варвары, у сшытках ёсць розныя налепкі, патрэбныя для выканання заданняў.

Таксама ёсць у нас ужо танцы, музыка, факультатыў "Я пазнаю свет" і фізкультура. Да самастойнасці большасць першакласнікаў пакуль толькі прывыкае.

**Таму пасля фізкультуры і танцаў то шортаў не хапае, то гімнастычны купальнік дзяўчынкі аказваецца ў торбачцы яе аднакласніка.**

Пасля ўводзінаў пачнуцца больш-менш звычайныя ўрокі. Дзеці атрымаюць буквары, матэматыку, будуць навучацца лічэнню і пісьму. Пачнецца і беларуская мова. Праўда, у першым класе яна будзе толькі вусная.

Па словах настаўнікаў, у нашых дзетак з беларускай мовай вялікія праблемы. І часам па англійскай яны паспяваюць лепш, чым па сваёй роднай. На бацькоўскім сходзе параілі чытаць дзецям беларускія народныя казкі.

У школу ходзім пакуль з задавальненнем. Але час ад часу можам засумаваць і па дзіцячым садку, і па любай выхавальніцы, і па лепшай сяброўцы.

Ранкам падымаемся без праблем. Урокі пачынаюцца ў 8:30, але сняданак ужо ў 8:10. Таму як ездзілі да васьмі гадзін у дзіцячы садок, так і цяпер ездзім у школу.

Знайшліся ў класе новыя сябры – цёзка **Варвара**, дзяўчынка **Даша**, з якой нарадзіліся ў адзін дзень, суседка па парце **Нэлі**. З хлопчыкамі адносіны неяк пакуль склаліся не вельмі.

– Добра, мама, што я ў цябе дзяўчынка, – нейк зранку, збіраючыся ў школу, сказала мая першакласніца. – Хлопцы ў нашым класе ўсе непаслухмяныя. Адзіная радасць быць хлопчыкам – што не трэба коскі заплятаць.



Аксана ЯРАШОНАК
aksanayarashonak@gmail.com
8-044-566-26-99 (працоўны)

## Акцыя "Дзясятачка" – выдатны матыватар для выдатнай вучобы

Падкажыце дзіцяці, што за выдатныя адзнакі ён ці яна могуць зарабіць планшэт, і пытанняў з дамашнім заданнем будзе менш.

Усё, што трэба, – атрымаць "9" ці "10", запоўніць бланк удзельніка, даслаць яго ў рэдакцыю і чакаць, хто ўрэшце стане пераможцам акцыі.

### Планшэт – лепшаму вучню

Лепшы вучань (вучні) па суме набраных балаў за навучальны год атрымае ад рэдакцыі планшэт. Лепшы клас – паход у піцэрыю.

Па выніках чвэрцяў рэдакцыя адзначыць лепшых вучняў у гэтых чвэрцях. Яны атрымаюць ад рэдакцыі фірменную сумку-партфель.

Акцыя працягнецца да 21 мая.

### Удзел у акцыі

У кожным нумары ў газеце будуць размяшчацца спецыяльныя бланкі для ўдзельнікаў акцыі "Дзясятачка". Яго запаўняе вучань любой са школ ці гімназій Маладзечанскага, Вілейскага, Смаргонскага, Мядзельскага, Валожынскага, Ашмянскага, Астравецкага раёнаў, якому на момант атрымання адзнакі споўнілася 12 гадоў, ці яго бацькі.

У бланк уносяцца звесткі аб адной атрыманай адзнацы, роўнай 9 ці 10 балам, па любым школьным прадмеце за перыяд ад 1 верасня 2017 года да 16 мая 2018 года. Бланкі прымаюцца да 12:00 21 мая. У гэты ж дзень рэдакцыя назаве таго (тых), хто атрымае планшэт.

Копіі бланкаў рэдакцыя не разглядае. Звесткі аб адной адзнацы могуць быць унесены толькі ў адзін бланк.

**Адрас рэдакцыі:** 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518 (ГЦ "Тройка", 5-ы паверх). Калі будзеце дасылаць поштай, зрабіце на канверце пазнаку "10-ка".

Поўны спіс правіл акцыі чытайце ў №37 ці на сайце rh.by.

"Рэгіянальная газета".

### Бланк удзельніка акцыі "Дзясятачка" (№38)

| | | |
|---|---|---|
| 1 | Імя, прозвішча | |
| 2 | Дата нараджэння | |
| 3 | Клас | |
| 4 | Школа | |
| 5 | Населены пункт | |
| 6 | Тэлефон, па якім можна звязацца з удзельнікам ці яго бацькамі | |
| 7 | Прадмет, за які атрыманая адзнака | |
| 8 | Якую адзнаку атрымаў ("9" ці "10") | |
| 9 | Дата атрымання адзнакі | |
| 10 | Імя, імя па бацьку і прозвішча настаўніка | |
| 11 | Тэлефон, па якім можна звязацца з настаўнікам | |
| 12 | Подпіс настаўніка | |




# Куплю Прадам Зраблю

## Дзе падаць аб'яву

| | |
|---|---|
| **МАЛАДЗЕЧНА** | Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518. Тэл. (80176) **537804, 8 (029) 6768420.** |
| **АСТРАВЕЦ** | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. (801591) **21140.** |
| **АШМЯНЫ** | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. (801593) **22211.** |
| **ВАЛОЖЫН** | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. (801772) **55542, 55237.** |
| **ВІЛЕЙКА** | вул. Партызанская, 44, магазін "Парус". Тэл. (801771) **20083, 20103**. |
| **ВІЛЕЙКА** | вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. (801771) **55233, 55539.** |
| **СМАРГОНЬ** | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. (801592) **33077.** |
| **МЯДЗЕЛ** | вул. 17 Верасня, 2. Тэл. (801797) **55266, 55765.** |

* *Аб'явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў Інтэрнэце на сайце* **Rh.by**

## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

- ВАЗ-21063, 1989 г.в., бэжавы колер. Т. (8-029) 1798400.*
- ВАЗ-2121 НІВА. Т. (8-029) 2693528, 735044.
- Гольф-7, 2014 г., Опель-Зафіра, 2014 г., торг. Т. (8-029) 3063523.*
- ДЭУ-Эксперa, 1995 г.в., Масквіч 412, 1991 г.в. Т. (8-01771) 24936, МТС 5509148, МТС 2768546.
- Мерсэдэс МВ-100 па запчастках. Т. (8-033) 6664314.*
- Пежо-205, 605, дызель, па запчастках. Т. (8-033) 6664314.*
- **ПЕЖО-5008, 2013 г.в., МІНІВЭН, З ГЕРМАНІІ. Т. (8-029) 6372633.***
- Рэно-19, дызель, па запчастках. Т. (8-033) 3500310.*
- ФВ-Вента, 1996 г.в., 1,9Д, па запчастках. Т. (8-029) 6232553.
- ФВ-Пасат В-3, 1993 г.в., ТД, універсал, чорны + зімовая гума, дыскі, рамяні. Т. Вэлком (8-029) 9303552.
- **АЎТАШКЛО. ПРАДАЖ, УСТАНОЎКА. ЯКАСНА, ПРАФЕСІЙНА. ГАРАНТЫЯ.** Наяўны, безнаяўны разлік. ЧСУП "АртАлексСэрвіс" УНП 690639270. Т. (8-029) 7766637, (8-044) 7766637. *
- **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО;** крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак, глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага. ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, 707810.*

### КУПЛЮ

- Аўто ў любым стане. Т. (8-029) 1261119.*
- **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-029) 6170681.***
- Аўто для сябе. Тэрмінова. Т. (8-029) 6412706.*
- Аўто, можна аварыйнае. Т. (8-029) 5677052.*
- Любое аўто на хаду. Грошы адразу. Т. (8-029) 7918210.*
- Каталізатар б/у. Т.(8-029) 9357762.*

### ПАСЛУГІ

- **МІНІ-ЭКСКАВАТАРА**, усе віды земляных работ. ІП Матусевіч Ю І. УНП 691397070. Т. (8-029) 6654868, (8-0176) 778888.*
- Міні-экскаватар, міні-пагрузчык, траншэекапальнік, вібрапліта 500 кг, самазвал 20 т. ІП Карповіч В.У. УНП 692013268. Т. (8-029) 9666645.*
- Паслугі экскаватара ЕК-14 (0,85 куб.м), экскаватара-пагрузчыка Фіят-Хітачы і франтальнага пагрузчыка ТО-18Б. Дастаўка ўласным тралам. ІП Вабішчэвіч І.В. УНП 690696017. Т. Вэлком (8-029) 3713335, МТС (8-033) 3133535.*
- Паслугі экскаватара ЮМЗ. Усе віды земляных работ. Самазвал 10 т. ІП Крэнць С.М. УНП 692015814. Т. (8-044) 5543967, (8-029) 8762233.*

## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

- 1-пакаёвая кватэра ў Вілейцы 21,6/12,2/5,2 кв. м. Т. (8-029) 7558660, (8-0176) 778970.*
- 1-пакаёвая кватэра ў Вілейцы па вул. Гагарына, д. 9, кв. 56, 5 паверх, агульная плошча 27,6, жылая 16,9, цана дагаворная. Т. (8-01771) 27990, (8-029) 2534684 Ганна.*
- 1-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, р-н Зеніт, 42 кв. м. Тэрмінова. Торг. Т. (8-029) 3551007.
- 1-пакаёвая кватэра ў Маладзечне па вул. Машэрава, 2, 1/3 паверх. 35/19/11 кв. м з рамонтам. Тэрмінова! Т. (8-044) 4529416.*
- 2-паверхавы цагляны дом у Вілейцы, з гаспадарчымі пабудовамі, 11,5 соткі зямлі. Т. (8-01771) 56170, (8-029) 6940541.*
- 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы па вул. Гагарына,16 з добрым рамонтам.Т. (8-029) 1590102.*
- 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, еўрарамонт. Магчымы абмен на Мінск з даплатай. Т. (8-029) 2749893.*
- 3-пакаёвая кватэра ў Смаргоні. Добры рамонт. Т. (8-029) 8894932.
- 3-пакаёвую кватэру ў а.г. Залессе, 10000 руб. Т. (8-029) 6125469.*
- 4-пакаёвая кватэра палепшанай планіроўкі ў цэнтры Маладзечна, 103,5 кв.м, кухня 13,5 кв.м. Т. (8-029) 6462051.*
- Гараж ГБК-Ізбіна, побач з АЗС, 5000 руб. Т. (8-029) 5761877.
- Дом драўляны ў добрым стане, нарачанскі напрамак, 8 км ад Вілейкі, 16 сотак, калодзеж, склеп. Т. (8-044) 7587148.*
- Дом жылы ў в. Хатуцічы Лебедзеўскага с/с, смаргонскі накірунак. Ёсць хлеўчык, калодзеж. Т. (8-029) 8624022.*
- Дом жылы ў Маладзечне. Тэрмінова. Газ, водаправод. Т. (8-025) 5419235.
- Дом жылы ў Маладзечне па вул. Галіцкага,2. Тэлефанаваць з 16.00 па 21.00. Т. Вэлком (8-029) 6091158.*
- Дом у в. Камарова Мядзельскага раёна. Т. Вэлком (8-029) 1707419.*
- Дом у в. Порса, участак 20 сотак. Т. (8-029) 1214671.*
- Дом у в. Снежкава (прыгарад Вілейкі). Т. (8-029) 2581605.*
- Дом у вёсцы Няверы Мядзельскага раёна, 0,20 га. Т. (8-029) 6205966.*
- Дом у Вілейскім раёне. Т. (8-029) 7621019, (8-044) 5321975.*

Прадам **ДАЧУ**
паблізу Вілейкі, Плікавічы.
Участак 10 сотак.
4 км да вадасховішча.
Т. (8-029) **651 20 36**.

- Дом цагляны ў вёсцы М. Запруддзе Валожынскага раёна, 0,25 га. Цана 24 000 руб, торг. Т. (8-029) 8730880.*
- Зруб памерам 5,5 х 5,6 м, даўжыня 0,18 м. Цана 1400 рублёў. Т. (8-029) 3557654.*
- Паўдома ў Вілейцы, вул. Лаўрыновіча, 5. Т. МТС (8-029) 2852295.*
- Участак 0,2 га, на беразе ракі Нарачанка, у в. Кузьмішкі Вілейскага р-на. На ўчастку ёсць дом, калодзеж, дзве гаспадарчыя пабудовы, электрыфікацыя 220. Поўны пакет дакументаў. Т. (8-029) 1748084.*
- Участак зямлі, 4 соткі, у в. Кардон. Т. (8-029) 7628080.

### ЗДАМ

- 1-пакаёвую кватэру ў Маладзечне. Т. (8-0176) 733643.*
- Здам у арэнду ізаляванае памяшканне ў будынку магазіна ў Вілейцы. ІП Ліхачоў М.В. УНП 600438977 Т. (8-029) 5551515.*
- Пакой маладому спецыялісту ў Маладзечне. Т. (8-029) 5719435.
- Пакой у цэнтры Маладзечна. Т. (8-029) 5019550.*

## ПАСЛУГІ

### ДЛЯ МАЛАДЫХ

- Вядучая на свята. Т. (8-033) 6228417.
- Вясёлы тамада, жывая музыка, разумныя цэны. Т. (8-033) 3400865. Васкабовіч А.А.*

### ФОТА-, ВІДЭАЗДЫМКА

- **ФАТОГРАФ. ВЯСЕЛЛІ. ПАМЯТНЫЯ ДНІ. СЯМЕЙНАЕ ФОТА. LOVE STORY. ПАРТРЭТЫ. ЛІЧБАВАЯ І СТУЖКАВАЯ ФАТАГРАФІЯ. Юркоў У.А. Т. (8-044) 5745873.***

### ГРУЗАПЕРАВОЗКІ

- Мерсэдэс-508, тэнт, да 3 тон + 5 пасажырскіх месцаў, па горадзе і РБ. Кватэрныя пераезды. Вываз смецця. Грузчыкі. ІП Шабуня С.А. УНП 691885349. Т. МТС (8-029) 8548742, Вэлком (8-044) 4784873.*
- Мерсэдэс-Бэнц-Спрынтар суцэльнаметалічны да 2-х тон, даўжыня 4,20 м, горад, РБ, РФ. ІП Навойчык О.В. УНП 692015166. Т. (8-029) 1684717, (8-029) 7684717.*
- **ГРУЗАПЕРАВОЗКІ** да 3 тон, горад, РБ, мэблевы фургон. ІП Радзівановіч А.А. УНП 691890548. Т. (8-029) 5064233.*
- Грузаперавозкі. Бус 1,5 тоны. Т. (8-029) 1921299. ПУП "Дойлід-С" УНП 600077312.*
- Грузаперавозкі. Фура-борт, 20 тон. Т. (8-029) 1921299. ПУП "Дойлід-С" УНП 600077312.*
- Мерсэдэс – 412, 2,5 т, 20 куб.м. Санпашпарт. Пераезды. Без выхадных. ІП Габрыновіч А.В. УНП 691885058. Т. (8-029) 7015520.*

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

- Спілуем дрэвы любой складанасці. ІП Шабуня С.А. УНП 691885349. Т. МТС (8-029) 8548742, Вэлком (8-044) 4784873.*
- Абітурыент ! Падрыхтоўка да ЦТ: матэматыка, фізіка. Заняткі з вучнямі сярэдняга звена. Якасць падрыхтоўкі высокая. Т. (8-029) 5586664, (8-029) 6325077, (8-025) 9500648.*
- Агароджы з прафнасціла, штыкетніка, бесера. Вароты адкатныя, якія расхінаюцца. Танна. ІП Мельнікаў П.Е. УНП 691518576. Т. (8-044) 5352329, (8-029) 7623561.*
- Аграсядзіба, **ЛАЗНЯ**. Vslobode.by ІП Камінскі А.Н. УНП 192737618. Т. (8-029) 6130457.*
- **АДДЗЕЛКА ДАМОЎ САЙДЫНГАМ**. ІП Бяліцкі А.В. УНП 690688577. Т. (8-029) 7085907, (8-029) 1232842.*
- Біялогія і хімія. Падрыхтоўка да ЦТ, запаўненне прабелаў. Індывідуальны падыход да навучання. Тэлефанаваць ад 17:00 да 21:00. Т. (8-029) 8610280.*
- Бурэнне свідравін (скважин) на ваду. ІП Суббот П.І. УНП 692010733. Т.(8-029) 7737451, (8-029) 1285233.*
- Бурэнне свідравін (скважин) на ваду. Нізкія цэны. ІП Мацін А.М. УНП 691410712 Т. (8-029) 9447224, (8-033) 6911759.*

МІЖНАРОДНАЕ СУПРАЦОЎНІЦТВА: БЕЛАРУСЬ – ГЕРМАНІЯ

# Рамеснікі з Германії: вашых дзяцей яшчэ можна здзівіць

ВІЛЕЙКА

**– А чым нямецкая восень адрозніваецца ад беларускай? – чамусьці менавіта гэта мне захацелася спытаць у немца Петэра Бeвердорфа, калі мы гутарылі з ім пад шатамі восеньскіх дрэў у адзін з ясных вераснёвых дзён на Вілейшчыне.**




Петэр Беверсдорф (першы) са сваёй рамесніцкай камандай у "Надзеі".

Аказалася, нямецкая восень такая ж дажджлівая, як і беларуская. Аднак у Германіі мала хваёвых дрэў і шмат лісцёвых. Таму восенню тут куды больш разнаколернасці.

У дзіцячы цэнтр "Надзея", што на Вілейшчыне, Петэр з групай нямецкіх рамеснікаў прыязджае ўжо некалькі год запар. Па словах Петэра, узаемаразуменне з работнікамі цэнтра ў немцаў вельмі добрае. Нават моўнае пытанне не асабліва перашкаджае. Маладыя людзі, якія працуюць у "Надзеі", не раз казалі нямецкім калегам, што шмат чаму вучацца ў іх.

Сёлетнія госці з Германіі прадстаўляюць арганізацыю "БОБІ". З нямецкай мовы назва расшыфроўваецца як "жыхары Ботрапа дапамагаюць тым, хто апынуўся ў бядзе". Дапамагаюць на дабрачынных пачатках.

У нямецкай групе 14 чалавек. Гэта электрыкі, сантэхнікі, інжынеры, розныя высокакваліфікаваныя спецыялісты па тэхніцы.

У "Надзеі" яны рамантуюць электратэхнічнае і сантэхнічнае абсталяванне, плануюць паставіць у школе энергазберагальныя свяцільнікі.

Тэхнічная дапамога цэнтру – асноўная, але не адзіная місія нямецкіх гасцей. Яшчэ яны абавязкова сустракаюцца з дзецьмі.

Запрашаюць іх да сябе на чай з пірагамі, знаёмяцца, гутараць, рыхтуюць невялікія падарункі для дзяцей, прыдумваюць гульні для іх.

### Пытаюцца пра адпачынак, сем'і і футбол

Беларускія дзеці, па словах Петэра, ахвотна задаюць пытанні на сустрэчах.

Юныя суразмоўцы звычайна хочуць даведацца аб прафесіях і сем'ях нямецкіх гасцей, пра тое, за якую футбольную каманду заўзеюць немцы.

На маё пытанне, ці адрозніваюцца беларускія дзеці ад нямецкіх, Петэр адказаў, што амаль не, але, падумаўшы, дадаў:

– Большасць беларускіх дзяцей, як і іх аднагодкі ў Германіі, модна апранутыя, маюць смартфоны. Аднак вашых дзяцей яшчэ можна нечым здзівіць і парадаваць, а вось нашых ужо, напэўна, не здзівіць нічым.

### Праблем з працай і адпачынкам не маем

Шмат беларускія дзеці распытваюць пра Германію. І тут гасцям ёсць што расказаць.

Большасць з іх прыехалі з нямецкага мястэчка Ботрап каля горада Дортмунда, што знаходзіцца ў складзе федэральнай зямлі Паўночны Рэйн-Вестфалія.

У Ботрапе каля 120 тысяч жыхароў. Але тут няма праблем з працаўладкаваннем і занятасцю моладзі, як у многіх невялікіх беларускіх гарадах.

Федэральная зямля, як і ўся Германія ўвогуле, вельмі густа населеная. Заканчваецца адзін горад – і адразу пачынаецца другі.

Таму месцаў для працы і адпачынку маладых людзей тут дастаткова.

Ботрап – гэта тэрыторыя Рурскага басейна. Здаўна тут здабываюць вугаль і вараць сталь.

На працягу некалькіх дзесяцігоддзяў сюды ўвесь час прыбываюць бежанцы. Яны едуць з Іспаніі, Італіі, Польшчы.

Па словах майго субяседніка, бежанцаў прымаюць добра. Даюць жыллё, гатовыя бескарысліва дапамагаць. Петэр са сваімі сябрамі не раз рамантаваў бежанцам дамы.

– Нам не прывыкаць працаваць з замежнікамі, – распавядае мой субяседнік. – Адразу пасля вайны ў Германію на пастаянныя месца жыхарства ехалі людзі з розных краін. Асабліва да нас, на тэрыторыю Рурскага басейна. Тут бежанцам заўсёды была праца – здабываць вугаль і варыць сталь.

Ва ўсходняй Еўропе, кажа Петэр, адносіны да бежанцаў іншыя. Тут некаторыя мясцовыя жыхары не заўсёды настроеныя так дружалюбна.

– Значыць, нейкія адрозненні паміж усходняй і заходняй часткамі Германіі засталіся? – пытаюся ў нямецкага госця.

– Так, адрозненні ёсць, – пагаджаецца Петэр. – Перш за ўсё, сацыяльна-эканамічныя. – Ва ўсходняй Германіі яшчэ і сёння пенсіі і заробкі значна ніжэйшыя, чым у заходняй. Але ўзровень жыцця павольна павышаецца, некаторыя людзі, якія ў свой час масава з'язджалі з ГДР у ФРГ, цяпер вяртаюцца на радзіму.

### Да гарачай ежы тры разы на дзень мы не прывыклі

Надзвычай прыемным і ў той жа час незвычайным для нямецкіх гасцей было харчаванне, прапанаванае ў "Надзеі". Аказваецца, немцы ядуць гарачае не тры разы на дзень, а адзін.

– Таму для нас вельмі нязвыкла было на сняданне атрымліваць макарону з фрыкадэлькамі, – дзеліцца Петэр.

Традыцыйны сняданак у Германіі – гэта кава, бутэрброды, сыр, кілбаса, мармелад.

Яшчэ гасцям з Германіі вельмі спадабаліся беларускія цукеркі і мёд. Менавіта іх у якасці гасцінцаў яны павязуць сваім родным у Германію. І вядома ж, традыцыйныя магніцікі з краявідамі Беларусі.

### Лепш дапамагчы, чым ляжаць на канапе

У мінулыя выхадныя нямецкая дэлегацыя ездзіла ў Мінск. Наведалі нацыянальную бібліятэку, падняліся на ліфце на дах будынка.

Завіталі ў музей Вялікай Айчыннай вайны ў Мінску. Па словах Петэра, экспазіцыя вельмі ўразіла іх. У Германіі тэма Другой сусветнай – вельмі далікатная.

Аднак яны, пасляваеннае пакаленне, не павінны адказваць за драўнія ўчынкі сваіх продкаў, перакананы Петэр. Асноўная іх задача – не паўтарыць таго, што здарылася ў 1940-я.

– Вось мы і працуем над гэтым, – распавядае Петэр. – Ідзем у Беларусь не разбурацы, а будаваць.

У "Надзеі" немцы будуць 12 дзён.

– Вашы сем'і не супраць, што на такі працяглы час вы з'язджаеце ад іх?

– Не, – кажа Петэр. – Жонкі і дзеці нас падтрымліваюць і нават ганарацца намі.

Мужчыны з арганізацыі "Бобі" перакананыя: чым ляжаць дома на канапе, лепш бескарысліва дапамагчы тым, хто мае ў гэтым патрэбу.

**Аксана ЯРАШОНАК.**



# Што “ўрадзіла” на восеньскім рынку ў Маладзечне

Кветніцы Уладзіміраўна і Наталля радуюць вока і чароўнымі гладыёлусамі, астрамі, вяргінямі, і шчырымі ўсмешкамі.



Анатоль прывёз бульбу ў Маладзечна з Любані Вілейскага раёна.




Усмешлівы траўнік заўсёды сустракае пакупнікоў на паўднёвым уваходзе на рынак райспажыўтаварыства. У яго можна знайсці кінзу, рукалу, базілік і ўсё з уласнага агарода.



На самых сакавітых дынях так і напісана “З’еш мяне” ці “Купі мяне”. Усё, як у казцы пра Алісу ў Краіне цудаў.



З Беніцы прывезлі самыя вялікія гарбузы і прыгожыя курачкі.



На рынку прыемна не толькі параўноўваць цэны і выбіраць самыя прыгожыя памідоры з блізкімі, але і сустракацца са знаёмымі.

Фота Зоі ХРУЦКАЙ.



# ПРОСТЫЯ РЭЧЫ

"Рэгіянальная газета" працягвае праект "Простыя рэчы". Штомесяц мы будзем распавядаць аб прадметах, якія маглі б даўно стаць музейнымі экспанатамі. Але не сталі. Бо, як мы ўпэўніліся, і сёння ёсць людзі, якія карыстаюцца імі. Пра такія рэчы і іх гаспадароў мы раскажам у праекце. Можа, вы, шаноўныя чытачы, засцілаеце падлогу саматканымі бабулінымі палавікамі ці рэжаце траву для жывёлы ў сячкарні? А можа, нехта цішком тчэ на кроснах?

Тады тэлефануйце нам на нумар 8 (0176) 53-78-06, і мы раскажам вашу гісторыю. Галоўнае, каб гэта рэч не была музейным экспанатам, а і сёння служыла вам па прызначэнні.



Аўтар праекта
Аксана ЯРАШОНАК.



Фота Аксаны ЯРАШОНАК.

З ліхтаром прабабулі Ганны Русецкай ільянскі школьнік Вова Буркевіч ходзіць зімой па дровы.



Фота Аксаны ЯРАШОНАК.

Каб падзарадзіць ліхтар, трэба адчыніць накрыўку.

# Навошта васьмікласніку з Ілы стары прабабулін ліхтар

ВІЛЕЙКА

**Швейная машынка пачатку 20 стагоддзя. Саматканае пакрывала. Вельмі стары мапед, якому браты Вова і Ягор плануюць даць другое жыццё…**

У гаспадарцы сям'і Буркевічаў з Ілы старых рэчаў шмат. Па словах гаспадыні **Людмілы Буркевіч**, такія рэчы вельмі функцыянальныя, надзейныя, правераныя. Не тое што сённяшні пластык.

### Ад бабулі прывезлі начоўкі, чайнік і ліхтар

Сярод усяго гэтага багацця ёсць і стары ліхтар у металічным корпусе. У Ілью ён трапіў з Гродзеншчыны. Там, у маленькай вёсцы Лемнікі каля Міру, жыла бабуля Людмілы **Ганна Русецкая**.

– Калі прадавалі бабуліну хату, – прыгадвае жанчына, – нам, унукам, дазволілі ўзяць хто што захоча. Я прывезла драўляныя начоўкі, чайнік 1955 года для сваёй калекцыі посуду і вось гэты ліхтар.

### Гляджу на ліхтар і прыгадваю бабулю

Ліхтар жанчына памятае яшчэ па дзяцінстве. Гляджу на яго і прыгадваю бабулю, кажа Людміла.

Да бабулі Ганны ў Лемнікі ўнучка Людміла з вёскі Краснае ездзіла з задавальненнем. Там можна было адпачыць і грошай зарабіць.

– Мясцовы калгас Жалезняковіча быў адным з самых паспяховых у Беларусі, – прыгадвае Людміла. – Памятаю, як я шасцікласніцай прыехала да бабулі і папрацаваўшы там летам на бураках, набыла сабе калькулятар і парасон. Для шасцікласніцы гэта былі істотныя набыткі.

### Даглядалі гаспадарку і хадзілі па торф

Ліхтаром карысталіся яшчэ тады, калі ў вёсцы не было электрычнасці. Праўда, якім чынам яго тады падзараджалі, застаецца загадкай.

Але нават калі электрычнасць з'явілася, ліхтар не страціў сваёй функцыі.

З ім бабуля ў цёмны час хадзіла даглядаць вялікую гаспадарку: 30 авечак, дзве каровы, конь. А курам, па словах Людмілы, увогуле ніхто ліку не ведаў.

З ліхтаром хадзілі па дровы і торф, каб прапаліць у хаце. Людміла памятае, што хлеў быў не далёка ад бабулінай хаты, а да будыніны, дзе складалі торф, трэба было ісці метраў сто.

У размове з Людмілай адкрыла для сябе, што торф – гэта не брыкет, якім сёння часам яшчэ паляць печы ў вёсцы. Торф кожны гаспадар здабываў на ўчастку балота, які яму выдзяляў калгас.

Гэта было асноўнае паліва. Дровы трымалі толькі на распалку, бо пасля вайны лес быў патрэбны для будаўніцтва.

Пласты экалагічнага паліва выкопвалі з вады, стоячы па калена ў балоце, разразалі рыдлёўкай і цэлае лета сушылі. Калі выкопвалі бульбу, тады торф звозілі бліжэй да хаты.

А пасля восеньскімі і зімовымі вечарамі бабуля Ганна, а потым і падгадаваныя ўнукі бралі за ручку зручны ліхтар і ішлі з ім па торф.

### Новая накрыўка і зараднае ад "Явы"

Старэйшыя сваякі казалі Людміле, што ліхтар, хутчэй за ўсё, выкарыстоўваўся як чыгуначны. Побач з вёскай чыгункі не было. Аднак кіламетраў за дваццаць цягнікі хадзілі. І туды неаднойчы бабуля Ганна падвозіла на кані свайго сына – бацьку Людмілы. Можа, адтуль і прывезла.

– Я так разумею, што ліхтар трапіў да бабулі або ў час вайны, або адразу пасля яе, – мяркуе жанчына. – Бабуля была вельмі добрай жанчынай, таму, можа, нехта ёй проста зрабіў такі падарунак.

**Праз дзесяцігоддзі ліхтар працуе вельмі добра. У ім рэгулюецца шырыня промня святла.**

А яшчэ гаспадары крыху ўдасканалілі яго. Бацька Людмілы, які ўсё жыццё адпрацаваў на маторным заводзе ў Мінску, зрабіў новую накрыўку.

Малодшы сын, Вова, каб падзараджаць ліхтар, прыстасаваў зараднае ад матацыкла "Ява".

### Цяпер ліхтар асвятляе "штабік"

Цяпер ліхтар – уласнасць Вовы. Ён яго падзараджае і, як некалі прабабуля, ходзіць зімой у хлеў па дровы.

– Звычайна падзараджаю дзень, – распавядае хлопец. – А карыстацца потым можна хоць месяц.

Лямпачка ў ліхтарыку, па словах Людмілы, працуе ўжо год дзесяць. Ці шмат электраэнергіі "цягне" падзарадка, гаспадыня не ведае. Аднак на дапамогу прыходзіць Вова.

– Аднакантактная, двухватная лямпачка, – аўтарытэтна заяўляе сын-васьмікласнік. – Яна не можа спажываць шмат электрычнасці.

У Вовы ў двары ёсць свой "штабік" – маленькая будыніна, дзе ён захоўвае цікавыя і дарагія сэрцу рэчы, экспанаты ўласных калекцый, гуляе ў хлапечыя гульні.

Дык вось, прабабулін ліхтар там не толькі экспанат калекцыі, а яшчэ і асноўная крыніца асвятлення.

Аксана ЯРАШОНАК.



# Чым жыў рэгіён 20 год таму?

**1997 год. Здаецца, ён быў яшчэ нядаўна. У гэтым годзе прэзідэнтам Амерыкі ў другі раз стаў Біл Клінтан, у тых жа ЗША пачалі прадаваць першыя прайгравальнікі і дыскі ДВД, на свет з'явілася першая кланаваная авечка Долі. У гэтым жа 1997 годзе загінула прынцэса Дыяна, сталіцай Казахстана стаў горад Астана замест Алма-Аты. На экраны выходзіць фільм "Тытанік".**

"Рэгіянальная газета" ў сакавіку адзначае выхад 100 нумара (цяпер вы трымаеце ў руках 1169). І друкуе наступную інфармацыю…

### 1. Беспрацоўе

У 1997 годзе Маладзечна значыцца ў лідарах краіны па беспрацоўі. Узровень беспрацоўя ў студзені – 5%.

### 2. Спаленыя вёскі

Відаць, што "ліхія 90-я", пра якія многія ведаюць толькі па фільмах, з усёй сваёй жорсткасцю пракаціліся па рэгіёне.

Інакш, як патлумачыць, што пачатак аднаго з артыкулаў пачынаецца так: "Спаленымі камерцыйнымі кіёскамі нікога не здзівіш. То прыватныя структуры высвятляюць паміж сабою адносіны, то іх такім чынам карае рэкет".

### 3. Дзікунства

Артыкул з назвай "Не забівайце!" расказваў пра дзікую гісторыю, якая адбылася ў 1997 годзе ў Маладзечне. Тады невядомыя падпалілі кіёск разам з прадаўцом, 20-гадовай Таццянай, якая памерла ад апёкаў.

### 4. 100 000 рублёў

У лютым 1997 года свой дзень нараджэння адзначыла 100-тысячная купюра.

"РГ" пісала: "Выйшла ў свет новая грашовая купюра. На адным баку гэтай "каштоўнай паперкі" паказаны фрагмент балета "Выбранніца" па паэмах Янкі Купалы, а таксама белы квадрат з зялёным малюнкам, які нельга апісаць словамі…

На другім баку – малюнак Дзяржаўнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета, фрагмент ужо традыцыйнага слуцкага пояса і яшчэ некалькі ўзораў. На вадзяным знаку – выява балерыны, якая замерла ў даволі прыгожай позе.

Вядома, дызайн не зусім падыходзіць да банкноты такога ўзроўню і каштоўнасці, таму выгляд яе выклікае ўсмешку. Хацелася б, каб у кожнага было пабольш такіх банкнот".

### 5. "Замініраваная" школа ўрокі не зрывала

З нервамі ў вілейскіх настаўнікаў у 1997 годзе было ўсё ў парадку ды і заканадаўства, відаць, было не такім суровым, як цяпер.

Артыкул пра мініраванне школы №1 у Вілейцы выйшаў у "РГ" 1 красавіка пад назвай "Прадоўжылі канікулы".

"У 10.55 першага дня новай чвэрці дырэктару сярэдняй школы №1 патэлефанаваў невядомы. Басавітым голасам паведаміў, што школа замініравана.

Вопытны настаўнік зразумеў, што з ім размаўляе падлетак. Педагогі звязаліся з міліцыяй. На календары – 1 красавіка, школа не з'яўляецца стратэгічным аб'ектам.

Улічваючы ўсё гэта, вырашылі не панікаваць. Першай змене далі давучыцца, другую адпусцілі дадому. Пасля абеду прыехалі супрацоўнікі міліцыі і, як і меркавалі, бомбу не знайшлі".

### 6. Касцёл і царква ў Маладзечне

17 мая 1997 года ў Маладзечне дабудавалі касцёл, што за кінатэатрам "Радзіма".

А на вуліцы Будаўнікоў пабудавалі царкву. Тую, побач з якой цяпер пабудаваны сабор. Першапачаткова будынак царквы нагадваў цыркавы шацёр.

### 7. Царква ў Дорах

У вёсцы Доры, што на Валожыншчыне, адкрылі царкву замест той, што ў 1943 годзе была спаленая разам з жыхарамі.

### 8. Фестываль вярнуўся

У гэтым жа годзе прынялі рашэнне вярнуць фестываль "Маладзечна" на гістарычную радзіму.

### 9. Першы смерч

27 чэрвеня першая паласа нумара выйшла з назвай "СМЕРЧ".

Менавіта такімі вялікімі і чорнымі літарамі пачынаўся артыкул.

"Нашы людзі такога не памятаюць. Надвячоркам у панядзелак над тэрыторыяй раёна пранёсся смерч. Былі і ахвяры".

Карэспандэнты газеты пісалі пра розныя вёскі рэгіёна, дзе ён пакінуў свой след.

### 10. Выпускныя ў рэстаранах

У гэтым жа годзе аддзелы адукацыі ўнеслі новаўвядзенне. Па іх распараджэнні выпускныя вечары рэкамендавана было праводзіць не ў школах, а ў больш "афіцыйных" месцах – рэстаранах.

Артыкул, які расказваў пра гэта, меў назву "Жыццё пачынаецца з рэстарана".

Аўтар у канцы артыкула падняла філасофскае пытанне: "Што чакае выпускнікоў, якія ідуць у самастойнае жыццё не са сцен школы, а з рэстарана?".

### 11. Парк у Вілейцы

У апошнім нумары ліпеня 1997 года "Рэгіянальная газета" віншавала жыхароў Вілейкі з 20-годдзем гарадскога парку.

Аўтар артыкула ўзгадваў, чым парк адметны для віляйчан:

"Перш за ўсё, ён помніцца камусьці дзіцячай пляцоўкай з арэлямі, а каму "шайбай"-піўнушкай, якая дачасна згарэла і аддала сваё імя нязграбнай пабудове паблізу "Зеніта", дзе ўжо няма той даверлівай атмасферы для аматараў адпачыць з куфлем піва з бочкі".

### 12. Прэзерватывы

У 1997 годзе ў "Рэгіянальнай газеце" выйшаў артыкул, які называўся "Прэзерватывы". На першай старонцы газеты ў артыкуле паведамлялася, што ў дзяржаўныя магазіны ў Вілейцы паступіць гэты тавар.

### 13. Тэнісныя корты. Хм, і дзе яны?

Жнівеньскі нумар "РГ" паведамляе: "Маладзечанскі гарвыканкам прыняў рашэнне аб узвядзенні ў горадзе тэнісных кортаў. Размясціцца яны недалёка ад гарадскога стадыёна.

У адрозненне ад традыцыйных даўгабудаў, мяркуецца, што ў канцы верасня новы спартыўны аб'ект будзе здадзены ў эксплуатацыю".

Лагічнае пытанне з 2017: ну і дзе той корт?

Увогуле, гартаючы падшыўку 20-гадовай даўніны, разумееш, што няшмат чаго і змянілася за гэты час: высокі ўзровень беспрацоўя, камунальныя праблемы, высокія цэны і малыя заробкі, нявыкананыя абяцанні, маленькія радасці, святы і юбілеі. Тое, чым жыў і жыве рэгіён па сённяшні дзень.



Наталля ТУР
natali.turenok@gmail.com
8-044-566-26-99 (працоўны)

## ● КАЛЯНДАР

### 22 ВЕРАСНЯ

**1917.** 100 гадоў назад памёр **Ігнат Буйніцкі**, акцёр, рэжысёр, пачынальнік беларускага нацыянальнага тэатра.

**1915.** Пачалася аперацыя па вызваленні Вілейкі, а праз дзень рускія войскі вызвалілі Вілейку ад нямецкіх акупантаў.

### 23 ВЕРАСНЯ

**1910.** Нарадзіўся **Юльян Сергіевіч** (в. Юраўшчына, цяпер Маладзечанскі раён), паэт, мастак. Яго вобраз стаў прататыпам аднаго з герояў рамана Янкі Брыля "Птушкі і гнёзды", таксама вобраз Сергіевіча як настаўніка створаны ў кнізе польскага празаіка Збігнева Жакевіча "Воўчыя лугі". Яму прысвяціў частку ўспамінаў краязнаўца Генадзь Каханоўскі, які актыўна ліставаўся з ім.

**1935.** У савецкай турме ва Уфе памёр **Лявон Заяц**, палітычны дзеяч. Нарадзіўся ў Даўгінаве, цяпер Вілейскі раён, у сакавіку 1890 года.

### 24 ВЕРАСНЯ



**1893.** У Будславе на Мядзельшчыне нарадзілася **Паўліна Мядзёлка**, дзячка беларускай культуры (памерла 13.02.1974). Заслужаны дзеяч культуры БССР. Актыўны ўдзельнік Беларускага руху ў міжваенных Польшчы, Германіі, Латвіі, Літвы. У 1925 эмігравала ў СССР. Была ў ссылцы ў Казані. Летам 1947 года пераехала ў Будслаў, дзе да 1958 года працавала настаўніцай. У Будславе напісала свой найбольш значны твор – мемуары "Сцежкамі жыцця".

**1815.** Нарадзілася **Габрыэля Альбіна Пузына** (Вільня), польская паэтэса, мемуарыстка. Жыла ў Дзевятні, цяпер Смаргонскі раён.

### 25 ВЕРАСНЯ

**1895.** Нарадзілася **Ванда Лёсік** (дзяв. Лявіцкая, мяст. Радашкавічы), пісьменніца, педагог. Адзіная дачка пісьменніка Ядвігіна Ш. (Антона Лявіцкага). Напісала ўспаміны пра бацьку. У 1917 годзе стала жонкай палітыка, вучонага і пісьменніка Язэпа Лёсіка. Калі ў 1930-х яго арыштавалі, як толькі стала магчымым, паехала да высланага мужа, з 1933 года дзяліла з ім ссылку. Памерла 8.12.1968 у пасёлку Татарка Стаўрапольскага краю.

### 28 ВЕРАСНЯ

**1937.** У Мінску ці пад Мінскам расстраляны **Уладзіслаў Галубок**, пісьменнік, рэжысёр, акцёр, тэатральны дзеяч, мастак.

Падрыхтавала Марыя БЕРАСНЕВА.

# У калекцыі віляйчаніна 650 машын...

ВІЛЕЙКА

**Міхаіл Крыватулаў з Вілейкі калекцыянуе мадэлі машынак ужо больш за 30 гадоў.**

Яго калекцыя то расла, то распрадавалася, то папаўнялася вельмі хутка, то на некалькі гадоў пра яе забывалі.

Міхаіл сустракае на парозе кватэры і запрашае ў пакой. На ўсіх сценах у ім вісяць шкляныя паліцы. А ў іх машынкі: замежныя і савецкія, спартыўныя і тыя, што належалі ўраду. Але ўсе стэлажы закрытыя на шрубы – у сям'і падрастае двухгадовы сынок Данік.

Асобна на паліцах размясціліся грузавы транспарт і аўтобусы з тралейбусамі.

Міхаіл прызнаецца, што яны якраз і ёсць яго апошняя жарсць.

На паліцах размясціліся дакладныя копіі сапраўдных аўтобусаў. Тут можна ўбачыць і "Ікарусы", і МАЗы-"гармонікі", якія яшчэ нядаўна хадзілі па вуліцах нашых гарадоў. Ёсць ЛАЗы, а ёсць і легендарныя аўтобусы, напрыклад, той, што здымаўся ў фільме "Каралева бензакалонкі", або аўтобус-кабрыялет, без даху, які ездзіў па курортах Краснадарскага краю як экскурсійны.

Але экскурсію па сваёй багатай калекцыі Міхаіл пачаў ад першай машынкі, якую купіў у 1988 годзе.

– Я сам маю дачыненне да аўтамабіляў, працую ў аўталаўцы на колах. Сам езджу на старой Аўдзі -100. І мне падабаецца. Вырасце сын, яшчэ ён будзе на ёй ездзіць.

Першую ж машынку з калекцыі, зялёненькі аўтамабільчык "Масквіч", Міхаіл, вядома памятае.

> **– Гэтыя машынкі цяпер сярод калекцыянераў вельмі дорага цэняцца. Але не ўсіх цікавяць, бо ў апошнія гадоў 10 на рынку з'явіліся цэлыя калекцыі: грузавікоў, пажарных машын, першых іншамарак, якія прыязджалі ў СССР, даваенных аўтамабіляў.**

Машынкі, якія ў дадзены момант збірае наш герой, каштуюць у межах 100 долараў.

– А так гэты занятак дастаткова танны. Напрыклад, машынкі з часопісаў каштуюць ад 5 да 30 долараў. Адзінае, што для іх патрабуецца, – гэта месца. Таму я, бывае, прадаю адразу сваіх пяць машынак і купляю адну, пра якую мару.

Цяпер Міхаіл хоча сабраць да канца серыю з 20 аднолькавых аўтамабіляў ГАЗ-51. Адметныя яны тым, што гэта фургончыкі з каляровай савецкай рэкламай: "Адпачывайце на курортах", "Піце мінеральную ваду", "Абедайце ў рэстаране".

– У маёй калекцыі цяпер 17 такіх машынак. Не хапае трох. Там, наколькі я памятаю, рэклама звязаная з рабочым адзеннем, рэкламуюцца пральні. Аднолькавыя машынкі рэдка хто збірае, а мне цікава.

Ёсць сярод калекцыянераў машынак і такія апантаныя людзі, якія збіраюць толькі адну марку машын, але рознага колеру.

– Вельмі прышпільна глядзіцца, калі стаіць на паліцы адзін "Масквіч-412", а каляровай гамы цэлы спектр.

Цана на машынку можа ўзрастаць у залежнасці і ад таго, ці не фарбавалася яна, ці не губляліся нейкія дробныя дэталі, колькі гэтых машынак выпусцілі ў серыі. Асаблівая тэма – гэта аўтамабілі ручной работы.

– Адзін такі аўтамабіль я заказаў, калі нарадзіўся мой сын. На памяць. Замовіў у беларускага майстра. Гэта МАЗ. І гэта машына адзіная ў сваім родзе. Другой такой проста няма. МАЗ, як і іншыя машыны, мае маштаб 1:43, робіцца мадэль па чарцяжах. Гэта рэальная зменшаная копія сапраўднай машыны, адзін у адзін.

Ёсць у калекцыі Міхаіла і дзве аднолькавыя гоначныя савецкія машыны 1938 года.

– Справа ў тым, што іх рабілі толькі па чорна-белым фотаздымку. І дакладна цяжка сказаць, якога колеру была машына: чорная ці цёмна-зялёная. Таму я купіў яе ў двух варыянтах. Адзін чорны з адкрытым верхам, другі цёмна-зялёны – з закрытым.

Цёплую ўсмешку выклікаюць экспанаты з калекцыі "Савецкае кіно".

"Волга" з фільма "Іван Васільевіч мяняе прафесію", "Чайка" з фільма "Рускі гасцінец". Дрызіна, на якой даганяў Ніну Шурык з фільма "Каўказская палонніца".

– Да аўтамабіляў з кіно асобна прадаюцца фігуркі герояў. Можна, напрыклад, купіць машыну-халадзільнік, з той жа "Каўказскай палонніцы", і да яе фігуркі Труса, Балбеса і Бывалага. Але пакуль у мяне няма агульнай канцэпцыі, фігуркі тыя не набываю.

З падарункам Міхаілу таксама лёгка ўгадаць – аўтамабіль ручной работы будзе заўсёды дарэчы.

Сам калекцыянер таксама захапляўся тым, што спрабаваў рабіць мадэлі машынак.

– І атрымоўвалася, хачу вам сказаць, толькі паказаць не магу, бо ўсе машыны, што рабіў сам, прадаў. Жонка, бывае, сварыцца, маўляў, купі ты сабе гараж, аўтобус і займайся справай! Быццам, з цацачнымі машынамі менш працы!

Некаторыя калекцыянеры працуюць з машынкамі ў пальчатках. На машынках таксама збіраецца пыл. Іх




Калекцыянер МІхаіл Крыватулаў з Вілейкі марыць аб тым, каб яго шматлікая калекцыя нарэшце заняла









Асобная тэма ў калекцыі Міхаіла – мадэлі машынак, якія здымаліся ў савецкіх фільмах. Напрыклад, аўтобус "Каралева бензакалонкі", адзін з "Запарожцаў", што на здымку ніжэй, прывёз на курорт Зою і Наташу "Іван Васільевіч мяняе прафесію" ганялася за злодзеям Жоржам Міласлаўскім. А тачанку, што над "Волгай" Шурык з Эдзікам даганялі Ніну ў фільме "Каўказская палонніца".

# ... цацачных



...а прасторную шкляную шафу.




Гоначны аўтамабіль "ГАЗ" – першы дарагі аўтамабіль з калекцыі Міхаіла. Ён каштаваў 80 долараў.









Аўтобусы – апошняе захапленне Міхаіла. Іх ужо назапасілася цэлая шафа, аднак кожны ЛАЗ, МАЗ, ЛіАЗ, "Ікарус" маюць сваю гісторыю і непаўторны знешні выгляд. Кожная дэталь аўтобусаў выкананая вельмі дасканала: круцяцца колы, адчыняюцца дзверы, нават таблічкі з маршрутам і тыя сапраўдныя. Таму зразумелая і цана на іх – больш за 100 долараў.






... ЛАЗ-697 вазіў герояў кінастужкі ...з фільма "3+2", "Волга" з фільма ..., мяркуем, пазнаюць усе. На ёй



Першыя савецкія гоначныя аўтамабілі. Іх рабілі толькі па чорна-белым фотаздымку. І дакладна цяжка сказаць, якога колеру была машына: чорная ці цёмна-зялёная. Таму я купіў яе ў двух варыянтах. Адзін чорны – з адкрытым верхам, другі цёмна-зялёны – з закрытым.







Такіх машынак у калекцыі Міхаіла пакуль 17 штук. Да поўнай калекцыі засталося сабраць тры штукі.

трэба дасканала праціраць пэндзлем.

– Падчас такой уборкі, бывае, згубіцца люстэрка ці фара, тады я злуюся. Жонку і дзяцей выганяю з пакоя, поўзаю па падлозе і шукаю дэталь, якая згубілася.

Апошняй пакупкай, якой ганарыцца Міхаіл, стаў аўтобус ЗІЛ-127.

– Ён каштаваў 165 долараў. У ім ёсць і шторкі, і нават касавы апарат. Вельмі марыў пра яго. Такіх аўтобусаў усяго выпушчана сем розных маршрутаў і рознага колеру. Мне спадабаўся маршрут "Стаўрапаль – Растоў-на-Доне" за зорачкі на баку аўтобуса.

З часам, расказвае калекцыянер, колькасць перарастае ў якасць.

Прадаюцца цэлыя калекцыі, каб набыць адну запаветную мадэль. Мадэлі нізкай якасці мяняюцца на больш дарагія і эксклюзіўныя.

– Некаторыя мадэлі з гадамі становяцца таннымі, іх прасцей аддаць гуляць сыну, чым займацца продажам. У Даніка цяпер свой аўтапарк. Хай падрастае, магчыма, ацэніць бацькаву калекцыю.

Старонку падрыхтавала



Наталля ТУР
natali.turenok@gmail.com
8-044-566-26-99 (працоўны)

*Аўтарская калонка*

Сяргей УЛАДЫКА

# Маладзечна-Любань: лік разгромны – 8:1

**Госці бываюць розныя. Некаторыя праяўляюць актыўнасць, гучна смяюцца за сталом, расказваюць анекдоты і кожны раз парываюцца сказаць тост. Іншыя могуць падтрымаць гутарку, нават часам паспрачацца, але не злоўжываюць гасціннасцю. Ёсць трэці від гасцей: яны ўвесь вечар паводзяць сябе ціха, не ўдзельнічаюць у конкурсах і толькі лісліва глядзяць у рот апавядальніку, часта ківаючы і ва ўсім пагаджаючыся.**

### Турнірная табліца. Другая ліга

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Чысць | 20 | 15 | 2 | 3 | 60-19 | 47 |
| 2 | ЮАС | 20 | 14 | 5 | 1 | 45-10 | 47 |
| 3 | Клецк | 20 | 13 | 1 | 6 | 52-29 | 40 |
| 4 | Маладзечна-ДЮСШ-4 | 20 | 10 | 5 | 5 | 50-27 | 35 |
| 5 | Вікторыя | 20 | 10 | 5 | 5 | 37-21 | 35 |
| 6 | Ашмяны-БДУФК | 20 | 12 | 3 | 5 | 71-23 | 34 |
| 7 | Спадарожнік | 20 | 10 | 4 | 6 | 39-20 | 34 |
| 8 | СМІ-Аўтатранс | 20 | 8 | 2 | 10 | 35-45 | 26 |
| 9 | Энэргетык-БДАТУ | 20 | 6 | 4 | 10 | 33-41 | 22 |
| 10 | Любань | 20 | 6 | 3 | 11 | 30-58 | 21 |
| 11 | Узда | 20 | 5 | 4 | 11 | 33-51 | 19 |
| 12 | Зборная ТФ | 20 | 4 | 3 | 13 | 25-61 | 15 |
| 13 | СДЮШАР-8 | 20 | 3 | 1 | 16 | 19-68 | 10 |
| 14 | СДЮШАР-3 | 20 | 3 | 0 | 17 | 20-76 | 9 |

Якраз на апошніх былі падобныя футбалісты з Любані, якія гасцявалі ў мінулую суботу на нашым "Гарадскім". Бачыць настолькі пакорлівую і згодную са сваёй аўтсайдарскай доляй каманду ў гэтым сезоне яшчэ не даводзілася.

Калі ў першым тайме гульцы "Маладзечна-ДЮСШ" мелі пэўныя цяжкасці са стварэннем небяспечных момантаў, то пасля перапынку яны пасыпаліся як з рога ўсяго многа.

І гэта пры тым, што чацвёра футбалістаў, што з'явіліся на полі пасля перапынку (**Касцюк, Бугай, Талькоўскі, Галюк**), у апошні час займаліся аднаўленнем пасля траўмаў, а не трэніроўкамі.

Тым не менш, у нашых хлопцаў усё атрымоўвалася.

На 9-й хвіліне адкрыў лік дакладным ударам са штрафнога **Макараў**. Праз восем хвілін **Бажко** адгукнуўся на добрую падачу з флангу **Галубовіча** і галавой адправіў мяч у сетку, падвоіўшы перавагу сваёй каманды.

А на 31-й хвіліне Галубовіч скарыстаўся панікай у абаронцах пазіцыях гасцей, сыграў на адскоку і зрабіў лік буйным.

Пасля перапынку пачалося форменнае збіццё. Нашы футбалісты выкарыстоўвалі нехітрую тактыку закідаў мяча за спіны абаронцам, і тыя не маглі нічога з гэтым зрабіць.

**У выніку Бажко на 52-й і Кошаль на 57-й хвілінах давялі лік да разгромнага.**




**Навічок каманды Антон Нгуен, справа, у матчы супраць Любані вызначыўся двойчы. Фота Наталлі ТУР.**

Калі Пустаход на 60-й хвіліне забіваў шосты мяч у вароты гасцей, многія гледачы пачалі спачуваць прыезджай камандзе. У гэты час на полі ўжо з'явіўся навабранец нашай дружыны – **Антон Нгуен**. Ён даў заўзятарам час для таго, каб пакрыткаваць ўяўную няскладнасць сваіх дзеянняў і пацешную тэхніку бегу, а затым пасароміў скептыкаў, выдатная рэалізаваўшы абодва дадзеныя яму галявыя шанцы.

Пасля дубля Антона, які вызначыўся на 75-й і 81-й хвілінах, у нашых хлопцаў былі яшчэ тры добрыя магчымасці забіць, аднак больш мяч не жадаў ісці ў сетку непрыяцельскіх варот.

Зрэшты, не жадаў ён знаходзіцца і ў сетцы варот гаспадарскіх. Таму, калі нападаючы "Любані" забіў гол, мяч адшукаў прарэху і пакаціўся за межы поля.

Суддзя ў полі спачатку звярнуў увагу на тое, што варта выканаць удар ад варот, але затым, пад смех гледачоў, прыслухаўся да меркавання бакавога памочніка і гол залічыў.

Гэтым смешным эпізодам і завяршыўся матч, у якім госці былі настолькі сціплыя, што нават не пілі чай. Ну, а ці такія моцныя маладзечанскія футбалісты, як намякае нам аб тым лік 8:1, мы праверым у наступных матчах з куды больш сур'ёзнымі сапернікамі.

**НАВІНЫ**

## "Смаргонь" атрымала самую буйную перамогу за ўсю гісторыю клуба ў чэмпіянатах краіны

**СМАРГОНЬ**

Форменным разгромам скончыўся матч 22-га тура чэмпіянату Беларусі па футболе ў першай лізе. "Смаргонь" 16 верасня перамагла "Слонім-2017" з лікам 8:0. Шэсць галоў уляцелі ў вароты гасцей у другім тайме. Пяць галоў забіў **Аляксей Рудзянок**, па адным – **Аляксандр Ануфрыеў, Эдуард Чудноўскі, Аляксандр Талканіца**.

– Мы настройваемся на кожнага саперніка, і "Слонім" не стаў выключэннем. Нам ужо адступаць няма куды, у кожным матчы мы павінны набіраць ачкі, – прыводзіць словы галоўнага трэнера "Смаргоні" **Аляксея Дварэцкага** афіцыйны сайт клуба. – Не скажу, што з улікам сённяшняга стана ў горадзе ці з-за таго, што матч са "Слонімам" – гэта рэгіянальнае дэрбі, мы спецыфічна падыходзілі да сённяшняй гульні. Мы рыхтаваліся да звычайнага шарагова матча, да якога заўсёды скрупулёзна рыхтуемся. Па выніку, можна сказаць, што сёння, нарэшце, нас прарвала.

**– Далей па календары "Смалявічы" і "Белшына"...**

– У гэтых гульнях павінна праявіцца наша сапраўднае аблічча. Не глядзім далёка наперад, а ідзём паступова ад гульні да гульні. Далі бой "Праменю", дададзім бой і "Смалявічам".

Галоўны трэнер "Слоніма-2017" **Алег Кароль** у гутарцы з карэспандэнтам Tribuna.com паспрабаваў растлумачыць прычыны правалу ў Смаргоні і катэгарычна адхіліў падазрэнні ў дзіўным матчы.

**– Што адбылося ў матчы са "Смаргонню"?**

– Што адбылося? Нагрузілі поўны кошык.

**– Чаму так няўпэўнена гулялі вашы гульцы?**

– Ну, чаму няўпэўнена? Упэўнена яны гулялі, проста дапусцілі памылкі. Да 30-й хвіліны ў нас былі два стоадсоткавыя моманты. Калі б забілі, то матч склаўся б зусім інакш. Першы гол прапусцілі з-за памылкі варатара, які схібіў на выхадзе. Затым у блізкі кут прапусцілі – таксама ягоная памылка.

**– У вас не закраліся падазрэнні адносна чысціні матча?**

– У гэтым сэнсе ніякіх падазрэнняў. Справа ў тым, што ў нас на матч паехала 10 палявых і адзін гулец на замену. Узялі маладога хлопца, каб хоць хтосьці быў на лаўцы. Яму 18 гадоў – на трэніроўкі не ходзіць, на гульні не ездзіць. Шмат траўмаў, шмат гульцоў, якія толькі што аднавіліся.

"Смаргонь" займае чатырнаццатае месца. А Аляксей Рудзянок пасля гэтага матча з 13-ю галамі ўзначаліў спіс лепшых бамбардзіраў лігі.

## Смаргонскія футбалісткі – другія ў вобласці

**СМАРГОНЬ, АШМЯНЫ**

У Лідзе 14 і 15 верасня праходзіла першынство Гродзенскай вобласці па футболе сярод дзяўчат 2002-2004 гадоў нараджэння. Прымала ўдзел дзевяць камандаў, у тым ліку з Ашмянскага і Смаргонскага раёнаў. Апошні прадстаўляла каманда дзяўчат пад кіраўніцтвам трэнера **Віталя Арцёменкі**.

Усе каманды былі разбітыя на тры групы, у кожнай – па тры каманды, паведамляе дзіцяча-юнацкая спартыўная школа па футболе Смаргоні. Смаргонкі перамаглі з аднолькавым лікам 1:0 каманду з Карэлічаў (гол забіла капітан – **Лізавета Лапко**) і Ашмянаў (мяч забіла **Дар'я Ількевіч**). Яны занялі першае месца ў сваёй групе і выйшлі ў паўфінал.

У паўфінале дзяўчаты перамаглі аднагодак з Зэльвы – 5:1. Па два галы на рахунку **Лізаветы Лапко** і **Эвеліны Арловіч** і адзін забіла **Карына Дабрук**. У фінале смаргонскія футбалісткі прайгралі камандзе са Шчучына – 0:1. У выніку ў каманды са Смаргоні другое месца.

## Каманды з рэгіёна перамаглі

**АШМЯНЫ, МАЛАДЗЕЧНА**

У дваццатым туры чэмпіянату Беларусі па футболе ў другой лізе ўсе каманды з рэгіёна атрымалі перамогі. Футбольны клуб "Ашмяны-БДУФК" 16 верасня абыграў "Узду" 4:0. Галы забілі **Вадзім Міхалевіч, Дзяніс Сімончык, Аляксей Скварчэўскі** і **Януш Ладуцька**.

"Чысць" таксама ў гасцях абыграла 2:0 "СДЮШАР-8" з Гомеля. У першым тайме вызначыўся **Аляксандр Вярэніч**, а пад канец матча падвоіў перавагу **Мікіта Мятліцкі**.

"Чысць" ідзе на другім месцы. Каманда мае 47 ачкоў – як і лідар, "ЮАС" з Жыткавічаў. "Маладзечна-ДЮСШ-4" – на пятым. На адно месца і адно ачко адстаюць ад маладзечанцаў "Ашмяны-БДУФК".

**Дзмітры Купнеўскі** з "Ашмянаў-БДУФК" разам з яшчэ адным гульцом узначальваюць спіс лепшых бамбардзіраў – ён забіў 21 гол.

**Аддзел інфармацыі.**



# Крыжаванка ад "Рэгіянальнай газеты"



**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**

3. Ніл Гілевіч: "…, адвечная, як свет: Шчасце ходзіць толькі ў пары з горам".
4. Заканадаўчая сталіца Паўднёва-Афрыканскай Рэспублікі.
5. Да якой смерці прыгаворвалі ерытыка, калі казалі: "Пакараць без крыві".
6. Гэта забараніў Эдуард III у 1349 годзе, каб не адцягвала ўвагу ад "высакароднага занятку – стральбы з лука".
10. Паўвостраў у Цэнтральнай Амерыцы, які аддзяляе Мексіканскі заліў ад Карыбскага мора.
11. План, парадак правядзення.
13. Для гэтага персанажа вырабілі самы вялікі стул у свеце, вышынёй 16 метраў.
16. Аддзяленне гэтай дзяржаўнай арганізацыі адчынілі ў Маладзечне па Вялікім Гасцінцы 12 верасня.
17. У калекцыі жыхара Германіі Хасо Хэйдэнрэйха іх больш за 600. Гледзячы на іх, складана здагадацца, для чаго яны створаныя. Адны нагадваюць гадзіннік, іншыя – маленькую скрыпку. Што ён калекцыянуе?
19. Яго перад гульнёй п'юць бразільскія футбалісты
22. Частка тэрыторыі дзяржавы, цалкам акружаная тэрыторыяй іншай дзяржавы.

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**

1. Штат ЗША, які празвалі Штатам Пячор, Маці Захаду, Брыдкіх людзей, а таксама "Пакажы Мне" штат.
2. Невялікі сялянскі дом у гарах Швейцарыі.
7. Незапоўненае месца ў тэксце, пропуск; прагал паміж літарамі, знакамі, радкамі.
8. Трэцюю частку гэтай краіны адваявалі ў мора.
9. Прозвішча шматразовага чэмпіёна свету па тайскім боксе з Маладзечна, які здымаўся ў кліпе спявачкі з псеўданімам Кіра Трыш.
12. Каля гэтай вёскі ў Вілейскім раёне адшукалі археалагічныя помнікі эпохі мезаліту – крэмневыя прылады працы.
14. Адзінка старога царкоўнага летазлічэння, роўная 15 гадам.
15. Тое, што і загадны лад.
16. Лінія, якая ўтвараецца на галаве, калі расчасаць на два бакі валасы.
18. Пустая прастора пад зямлёй, у горным масіве, утвораная дзеяннем падземных вод або вулканічных працэсаў.
20. Якія мучныя вырабы ўпрыгожваюць гасцінны пакой мастака і выкладчыка цымбалаў з Маладзечна Юрася Церабуна, нагадваючы пра смаргонскую зямлю?
21. Асабістая назва чалавека.
23. Дагавор паміж Папам Рымскім і якой-небудзь дзяржавай, які рэгулюе прававое становішча каталіцкай царквы ў гэтай краіне.
24. Старажытныя грэкі лічылі, што іх ім даў Праметэй, вавіланяне – паўчалавек-паўрыбы Оанэс, кітайцы – імператар Фу-хі, старажытныя мексіканцы – Кецалькоатль.

**АДКАЗЫ НА КРЫЖАВАНКУ З №37.**

**Па гарызанталі.** 2. Фалерыстыка. 4. Маніфест. 5. Пляшчаны. 10. Паладый. 13. Кіндзюк. 14. Манах. 16. Футбол. 18. Герваты. 20. Дрымота. 22. Камень. 23. Дэміург. 26. Балота. 28. Дэсерт.

**Па вертыкалі.** 1. Дэфіс. 3. Пеналыці. 6. Шпалеры. 7. Чай. 8. Японія. 9. Вітамін. 11. Дыягназ. 12. Пастух. 15. Друід. 17. Богша. 18. Галандыя. 19. Кувейт. 20. Дукат. 21. Ліфт. 24. Нафта. 25. Прырода. 27. Дэтэктар.

## ● ГАРАСКОП 22-28 ВЕРАСНЯ



**АВЕН.** Калі вы прыйшлі ў нейкім пытанні да адназначнага адказу – дзейнічаць, то вас ужо нічога не спыніць. Смела ідзіце наперад.



**ЦЯЛЕЦ.** Не лезьце на ражон, праявіце мудрасць. Вас будуць разрываць сумненні, розныя мэты і ідэі, довады "за" і "супраць", якія не дазволяць вам дзейнічаць так, як таго патрабуе сітуацыя. Толькі рашучасць дазволіць вам адсячы ўсё непатрэбнае і пачаць ісці сваёй дарогай.



**БЛІЗНЯТЫ.** Дні спрыяльныя для вас. Вы можаце развярнуцца на поўную моц і пачаць раздаваць каманды налева і направа. І вас будуць слухацца. Пры старанні вы зможаце надоўга стварыць вакол сябе арэол важнай асобы, якая ведае, што і як трэба рабіць, і з якой спраўляцца бессэнсоўна.



**РАК.** Вы зноў і зноў апускаецеся ў глыбіні свайго ўнутранага свету, сузіраючы сябе і сваю падсвядомасць, сваё ўнутранае я. Гэта добрая практыка. Але неўзабаве ад спакойнага сузірання вам прыйдзецца пераключыцца на актыўную дзейнасць па абароне таго, што належыць вам. Калі вы не захочаце гэта зрабіць самі, то знешнія абставіны прымусяць вас дзейнічаць рашуча.



**ЛЕЎ.** Пагледзіце на свет па-новаму. Вы знаходзіцеся ў стане пастаяннага дзеяння, пры гэтым не атрымоўваеце нічога ўзамен. Вы сталі заложнікам сваіх поглядаў ці навязанага вам ладу жыцця. Каб выбрацца з замкнутага кола, вам трэба спыніцца і дазволіць жыццю вывесці вас на новы ўзровень.



**ДЗЕВА.** Вам трэба наводзіць парадак у адносінах паміж людзьмі, устанаўліваць, хто мае рацыю, а хто вінаваты, і выносіць канчатковае рашэнне.



**ШАЛІ.** Над жыццём навіслі цяжкасці, перш у матэрыяльнай сферы. І тое, што вы не можаце разлічваць на кагосьці іншага, яшчэ больш пагаршае сітуацыю. Прыслухоўвайцеся да парадаў іншых людзей і не адмаўляйцеся ад старонняй дапамогі. Ваш недавер да людзей не ідзе вам на карысць.



**СКАРПІЁН.** У сярэдзіне тыдня вы зможаце спазнаць радасці хатніх клопатаў, а яшчэ ад вас запатрабуецца стараннасць ў справах, што не дазволіць вам адцягваць увагу на негатыўныя думкі.



**СТРАЛЕЦ.** Ваша задача на гэтых днях – гэта не перашкаджаць таму, што павінна само прыйсці да вас, і гэтак жа таму, што павінна сысці.



**КАЗЯРОГ.** Каб жыццё было спакойным, была ўтульнасць у доме, вам неабходны парадак у справах і стабільнасць у матэрыяльным плане. Гэтым і трэба будзе заняцца. Стабільнасць зусім не азначае актыўную працу, заробкі і да таго падобнае. Стабільнае – гэта гарманічнае спалучэнне расходаў і даходаў, якое дазваляе вам спакойна глядзець у будучыню.



**ВАДАЛЕЙ.** Спрыяльны час для творчай працы, асабліва для літаратурнай і журналісцкай. Нядрэнна можа пайсці гандаль, магчымыя частыя раз'езды па справах. Арыгінальныя ідэі адносна заробку павінны з'явіцца ў канцы тыдня.



**РЫБЫ.** Вам хочацца дабрабыту, упэўненасці ў заўтрашнім дні. Але вы займаецеся вельмі актыўнай дзейнасцю, накіраванай кудысьці ў зусім іншы бок. У выніку трацціце сілы па дробязях, так і не дасягаючы сваёй мэты. Вам неабходна стрымануцца і перагледзець сваю сітуацыю, свае жаданні. Тады вы зможаце пачаць рухацца ў патрэбным накірунку.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

## ● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 6 | 2 | | 7 | 5 | | | 8 | |
| | | 1 | | 8 | | | 2 | |
| 7 | | | | | 3 | | 5 | |
| | | | | 6 | 4 | | | |
| | | 3 | | | | 7 | | |
| | | | 3 | 7 | | | | |
| | 4 | | 8 | | | | | 6 |
| | 5 | | | 4 | | 3 | | |
| | 1 | | | 3 | 9 | | 4 | 5 |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.



ISSN 1991-7155

# Рэгіянальная газета. Rh.by

тэлетыдзень

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

● НАДВОР'Е

**23 верасня, субота**

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +15 / +21 | | +13 / +17 | | +10 / +17 | | +9 / +13 | |
| | 742 | ← 10 | 746 | ← 9 | 750 | ← 8 | 751 | ← 10 |
| Вільня | +14 / +19 | | +14 / +18 | | +10 / +18 | | +10 / +15 | |
| | 748 | ↖ 8 | 757 | ↖ 6 | 757 | ↖ 6 | 759 | ← 8 |

| Тэмпература паветра | Воблачнасць ападкі | Усход, захад па Маладзечне |
|---|---|---|
| Ціск (мм рт. сл.) | Хуткасць ветра м/с | |

Усход 7.01
Захад 19.08
Даўжыня дня 12.07

Усход 10.24
Захад 20.45
Квадра 1




● ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я

**АШМЯНЫ**

Мінімальная тэмпература -3 °C у 1996 годзе
Максімальная тэмпература +24,7 °C у 2003 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 12,1 мм у 2012 годзе
Паводле meteoinfo.by

## Чытайце праз тыдзень:

● **Праз тыдзень чытайце працяг "Куфэрка". Мы разам вернемся ў 2002 год і паглядзім, пра што пісала "РГ" 15 гадоў таму.**

## Праграма моладзевага форуму "Час жыць"

**Форум адбудзецца 29 верасня ў маладзечанскім Палацы культуры.**

**12:00. Адкрыццё** форуму ў фае палаца, стварэнне калектыўнай **інсталяцыі** "Вытокі жыцця".

**12:30.** Моладзевая пляцоўка **"Што робіць цябе жывым?"** у малой зале. Дыскусія з удзелам запрошаных экспертаў – філосафаў, псіхолагаў, тэолагаў, пісьменнікаў, грамадскіх дзеячаў. Будуць абмяркоўвацца пытанні "Навошта і куды жыць?", "Тварыць ці вытвараць" пра адказнасць у творчасці, "Як у інфармацыйным шуме сярод тысячы шляхоў не стаць зомбі і не прайсці міма сябе?".

**14:30.** Майстар-класы па творчасці і самарэалізацыі.

1.) **"100 сакрэтаў пра партрэты"** – майстар-клас па малюнку для пачаткоўцаў ад **Алены Кучко** ў аўдыторыі 101.

2.) Майстар-клас па **самаспазнанні** экзістэнцыянальнага тэрапеўта **Вольгі Бадранковай**. Пра што гавораць нашы сны? Як не прапусціць хвіліны сапраўднага жыцця?

3.) **"Лабірынты поспеху"** – трэнінг-матывацыя дасягнення бізнэс-трэнера **Арцёма Зайцава**. Кожны хоча быць пасяховым, але як ім стаць?

**16:30.** Майстар-класы

1.) **"Ён і Яна: экалогія шлюбных адносінаў (18+)"** – семінар для сямейных пар **Ягора Урублеўскага** ў танцавальнай зале.

2.) **"Застацца сабой"** – трэнінг супрацьдзеянню дыскрымінацыі моладзевага клуба "ЮНЕСКА" ў малой зале.

3.) **"Дотык"** майстар-клас па перфомансе рэжысёра тэатра "Адкрытая прастора" **Данііла Філіповіча** ў харэаграфічнай зале.

**19:00.** Матывацыйна-творчая **канцэртная праграма** "На100ящие!" з удзелам маладых музыкантаў, пісьменнікаў, акцёраў у канцэртнай зале.

**20:30. Дыскатэка** ва ўніверсальнай зале.

**По інфармацыі арганізатара форуму Марыны ВАЛАСКОВІЧ.**

## Розум-шоу запрашае на гульню

**МАЛАДЗЕЧНА**

Гульня пачнецца ў 15 гадзін у нядзелю, 24 верасня, у бібліятэцы сямейнага чытання "Верасок".

Вядучы – уладальнік Хрустальнай савы **Павел Свярдлоў**.

● ПРОСТА АНЕКДОТ

Вясковая крама гарэла, але ніхто не спяшаўся яе тушыць. Усё чакалі, калі згарыць той самы сшытачак.

***

– Ведаеш, што самае крыўднае, калі варыш пельмені?

– Разварваюцца?

– Не. Самае крыўднае, калі вада закіпела, ты адчыняеш халадзільнік, а пельменяў няма!

***

Мужчына ідзе каля пясочніцы і бачыць, як маленькая дзяўчынка з задавальненнем разрывае на кавалачкі плюшавага мядзведзя.

– Дзяўчынка, ты што, не любіш жывёл?

– Ды я і людзей неяк не вельмі.

***

Наведнік выставы мастаку:

– Карціна называецца "Кот у ботах", а я бачу толькі боты. Дзе ж кот?

– У ботах!

***

Экзамен. Выкладчык:

– Такім чынам, пачнём. Хто ведае на 9?

Падымаецца некалькі нясмелых рук, выкладчык бярэ ў іх заліковкі і ставіць "9".

– Ну а хто ведае на 7?

Рук ужо больш, задаволеныя студэнты атрымліваюць "добра" і сыходзяць. Тое ж самае – з "здавальняюча". У выніку ў аўдыторыі застаецца некалькі студэнтаў, якія рвуць на сабе валасы за нерашучасць.

– А вы, значыць, ведаеце на 4. Значыць, хочаце на перадачу... Ну што ж, перадача. Хто ведае на 9?

***

– Гэта маска дапаможа мне захаваць свежасць і пругкасць скуры?

– Халера цябе бяры, Пятровіч, не ведаю! Іншай ў нас на будоўлі няма! Надзявай яе, бяры зварачны апарат і ідзі працуй!

***

Бландзінка прыходзіць у аўтасалон і звяртаецца да прадаўца:

– Добры дзень, я хацела б набыць "Рэно".

– Мадэль?

– Не, сакратарка. Але за камплімент дзякуй!

● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

## Як вы змагаецеся са сном на рабоце?



**Ірына Сырэц, у дэкрэтным адпачынку:**

– Калі шмат працы, то выйсце толькі адно – з галавой у работу. А калі проста сядзець і глядзець на гадзіннік , тут ужо нічога не дапаможа.



**Іна Цярэшка, камерцыйны дырэктар:**

– Ад сну лепш за ўсё дапамагае музыка. Уключайце Luis Fonsi-Despacito і танцуйце. А лепш за ўсё на рабоце займацца цікавай справай.



**Ірына Кананові́ч, аніматар:**

– Мне, як аніматару, добра вядома, што лепшы сродак ад пасляабедзеннага сну – гэта запальная музыка і энергічны танец.



**Аляксандр Куцуха, электраманцёр:**

– Насамрэч, рэцэпт просты: бярэцца адказнасць, надзейнасць, да іх дадаецца майстэрства. Трошкі радасці ў прыдачу, з ёй лепш рабіць усе справы! Пасыпаць зверху працавітасцю, упрыгожыць добразычлівасцю, а калі гэтага мала – можна дадаць кавы. Але трэба памятаць усім, сябры, што панядзелак – дзень цяжкі, Трымайцеся, спадарства!



**Аляксей Жахавец, стваральнік сайта horodok.by:**

– Са сном на рабоце трэба змагацца дома. Своечасова, напрыклад, класціся спаць.



**Андрэй Іваненка, інвестар ФК "Маладзечна":**

– Праблем са сном у рабочы час я не маю. Сакрэт просты: мой лад жыцця дазваляе класціся спаць, калі стаміўся, і прачынацца тады, калі арганізм дае каманду. Спецыфіка маёй дзейнасці – аддаленая праца – дазваляе прытрымлівацца такога графіка. Цяпер я не хварэю нават на ВРВІ. Так што высыпайцеся, слухайце свой арганізм і будзьце здаровыя!



**Ілона Цюра, бухгалтар:**

– Напрыклад, можна зрабіць зарадку. Выйсці з памяшкання на свежае паветра на хвілін пяць. Можна выпіць кубачак кавы. А ўвогуле трэба проста працаваць на любімай рабоце і не думаць пра сон.

**Падрыхтавала Наталля ТУР.**



Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 5000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№38 (1169) 22.09.2017. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня УП "Плутас-Маркет", 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія ЛП №02330 /190 ад 30.04.2004 №93.
Зак. 895 . Падпісана ў друк у 9.00 21.09.2017.
Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.

Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.
Тэл.: (80176) 53-78-04 (рэклама, факс), 53-78-05 (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), 53-78-06 (журналісты), (8029) 573-28-47, 676-84-20. E-mail: reklama@rh.by, regionnews@rh.by, http://rh.by
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета", УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.